22 снежня 2017 | № 48 (562)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Час для гендэрнай інтэрвенцыі?**

Стар. 9



# Сам сабе Святы Мікалай



Сяргей ПУЛЬША

**На Каляды мы ўсе чакаем цудаў. Добра дзецям — яны яшчэ вераць у чараўнікоў кшталту Святога Мікалая альбо Дзеда Мароза, якія прыйдуць — і адразу ўсё дадуць. Дарослыя ж разумеюць: нічога «проста так» не бывае. Аднак усё роўна ў гэтыя часы чакаюць нечага светлага і добрага.**



Фота www.1freewallpapers.com

Мы кожны Новы год думаем пра тое, што «наступны будзе лепшым, чым мінулы». У гэтым, дарэчы, адзін з парадоксаў беларускай «стабільнасці». Нам гэту «стабільнасць» і «абы не было вайны» спрабуюць уцюхваць кожны раз, калі гэта трэба ўладзе. Але, насамрэч, калі надыходзяць Каляды, мы жадаем лепшага і светлага. То бок — жадаем пераменаў.

Але перамены не могуць прыйсці проста так, ад няма чаго рабіць. На гэта патрэбныя час і высілкі. І толькі калі мы іх будзем прыкладаць самі, калі не спасуем перад цяжкасцямі, не апусцім рукі, калі нешта не атрымліваецца, — тады і будуць тыя перамены, якія нам патрэбныя.

У інтэрнэтах зараз усе наракаюць, што 2017-ты быў даволі цяжкім. Для ўсіх. Усе жадаюць з ім найхутчэй развітацца. Але ў гэтым цяжкім годзе мы пабачылі, што, калі прыкладаць высілкі, калі дамагацца таго, што патрэбна табе (і не толькі табе, але і багата каму яшчэ) — усё цалкам магчыма ажыццявіць.

Насамрэч, у гэтым годзе ў нас было шмат перамог. Толькі такая ўжо асаблівасць чалавечай памяці: нешта добрае было — і прайшло. А тое кепскае, што ёсць, — пастаянна з табою. Свідруе мозг, не адпускае ані на крок.

Возьмем сёлетнюю абарону Курапатаў. Хто думаў, што магчыма спыніць будаўніцтва камерцыйнага аб'екта на спрэчнай тэрыторыі? Асабліва пасля таго, як гэта не ўдалося зрабіць з «Бульбаш-холам»?

Але ж спынілі. Праўда, зараз амаль ніхто, асабліва з назіральнікаў, не задумваецца, якіх высілкаў гэта каштавала абаронцам Некрапалю. Як яны мерзлі па начах, як яны ўладкоўвалі сваё намётавае мястэчка. Як яны спраўляліся з будаўнікамі і не пускалі іх на тэрыторыю «аб'екта». Ці лёгка было вырашыцца Пальчэўскаму прыкуць сябе кайданкамі да самазвалу? Пры гэтым усе яны ведалі, што ў нашай краіне за такія дзеянні можна атрымаць больш чым непрыемнасці — канкрэтныя адміністратыўныя, а мо нават і крымінальныя справы.

Што давала ім моцы? Вера ў тое, што яны могуць гэта зрабіць? Асэнсаванне таго, што «моц — у праўдзе»? Што не зробіць гэтага ніхто, акрамя іх?

Гэты самаахвярны ўчынак людзей, што спынілі будаўніцтва, насамрэч меў значна большыя наступствы, чым проста спыненне будоўлі на ахоўнай тэрыторыі. Адзін мужны ўчынак выклікаў лавіну маленькіх, але таксама перамогаў. Пра ўшанаванне памяці ахвяраў рэпрэсій і будаўніцтва мемарыялу ў Курапатах загаварыла ўлада — чаго не было з ёй, падаецца, з 1992 года. Прынамсі, мінулая абарона ўрочышча ў 1999-м такой дыскусіі не выклікала. Павел Якубовіч перадаў Маі Кляшторнай дакументы па яе рэпрэсаваных родных. Ствараецца народны праект мемарыялу. Грамадская дакументальна-мастацкая выстава «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні» ездзіць па краіне і дэманструецца ў Беларускім гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа цягам пяці дзён.

Ці мог яшчэ ў мінулым годзе хтосьці ўявіць, што выстава, прысвечаная бальшавіцкім рэпрэсіям, будзе паказвацца па ўсёй краіне? «Ды ніколі пры

> **Перамены не могуць прыйсці проста так, ад няма чаго рабіць. На гэта патрэбныя час і высілкі**

гэтай уладзе!» — сказалі б мы яшчэ год таму.

Зараз можна шмат чаго казаць. У тым ліку і пра тое, што «кропля камень точыць». Бо тую ж Курапацкую выставу грамадская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў» збірала не адзін дзень, і нават не адзін год. У выніку яна пабачыла свет.

Але дзеля такіх магчымасцяў, безумоўна, трэба нечым ахвяраваць. Як абаронцы Курапатаў ахвяравалі сваім часам, сваім лёсам, сваім здароўем дзеля той справы, якую яны лічылі важнай і святой. Трэба мець веру і цвёрдую ўпэўненасць, што «моц — у праўдзе, у каго праўда, той і мацнейшы». І, — што вельмі цяжка, — адкінуць сумневы ў сваёй праўцы.

І ў той жа час не менш важна задушыць у сабе скептыка. Як мага менш прыслухоўвацца да «канапавых экспертаў», якія толькі і ўмеюць, што патлумачыць, «чаму з гэтага нічога не атрымаецца». Адкінуць думку, што прыйдзе нейкі «барын», і зробіць усё за цябе. Гэта якраз чаканне чараўніка — а яго, як мы ўжо ведаем, не існуе.

Трэба не думаць пра тое, што нешта не атрымаецца, а біцца галавой у сцяну да таго часу, пакуль гэтая сцяна не разваліцца. Так, гэта непрыемна, гэта балюча, гэта часам падаецца марным. Але ў тым жа і дасягненне — прабіць сцяну так, каб і галава засталася цэлай?

У выніку мы прыйдзем да высновы, што, насамрэч, дасягненне чагосьці лепшага, дасягненне пераменаў — гэта праца найперш над сабою. Над упэўненасцю ва ўласнай праваце, уласнай моцы, уласнай магчымасці нешта змяніць. А праца над сабой — гэта самая цяжкая праца ў свеце.

Варта гэта зрабіць — і ўсё ў нас атрымаецца. Гарантавана.

# «Праўда пра Курапаты» ў Коласаўскім ліцэі

Марат ГАРАВЫ

**Навучэнцы і выкладчыкі Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа пазнаёміліся з дакументальна-мастацкай выставай «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».**

Цягам пяці дзён выстава экспанавалася ў сценах навучальнай установы, дзе атрымліваюць сучасныя гуманітарныя веды нашчадкі тых свядомых беларусаў, для каго найвялікшымі каштоўнасцямі з'яўляюцца гістарычная памяць, беларуская мова і людская салідарнасць.

Вось чаму для арганізатараў выставы, якая з кастрычніка па снежань наведала Гродна, Вілейку і Маладзечна, сустрэча ў Коласаўскім ліцэі была найбольш уражальнай.

Нездарма актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў», якія стваралі выставу і ўдзельнічалі ў яе адкрыцці, назвалі ліцэістаў «самымі ўдзячнымі наведнікамі» экспазіцыі.

Сама атмасфера адкрыцця сведчыла пра ўдзячнасць ліцэістаў, бо ў іхніх вачах, у іх маўчанні і словах адлюстроўваліся пільнасць, разуменне і еднасць з арганізатарамі выставы ў трактоўцы трагедыі ў Курапатах і яе наступстваў для Бацькаўшчыны.

Трэба мець на ўвазе, што гісторыі чырвонага тэрору надаецца шмат увагі як у праграме навучальнага працэсу, так і пазакласным выхаванні ліцэістаў. Так, у мінулым годзе навучэнцы Коласаўскага ліцэю здзейснілі адмысловую экскурсію ў Нацыянальны некропаль для знаёмства з вынікамі даследавання грамадскасці па гістарычнай тапаграфіі Курапатаў.

Сярод тых, хто вітаў ліцэістаў, былі старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, народжаная ў ГУЛАГу ў 1937 годзе, мастак Генадзь Драздоў і бард Зміцер Захарэвіч.

У наступным годзе выстава працягне свае вандроўкі па Беларусі і па-за яе межамі.

# Далучайцеся да грамадскага кантролю!

**Валанцёрская служба незарэгістраванага Праваабарончага цэнтру «Вясна» прапануе кожнаму перастаць верыць у сіні экран і паспрабаваць паглядзець на ўсё ўласнымі вачыма.**

Раптам яшчэ нешта і зменіць да лепшага можна! Ёсць магчымасць незалежна паназіраць за такой рэдкай (раз на чатыры гады) падзеяй, як выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў усіх узроўняў.

### Навошта патрэбныя назіральнікі?

Праваабаронцаў хвалюе пытанне сумленных і свабодных выбараў, паколькі гэта тычыцца аднаго з фундаментальных правоў чалавека. Нягледзячы на тое, што з мінулых выбараў нічога не змянілася, і нават калі мы ўсё ведаем наперад, важная незалежная фіксацыя фактаў фальсіфікацыі выбараў і іншых магчымых парушэнняў. У межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ўжо працуе тэматычны сайт да маючых адбыцца выбараў. Можаш паглядзець, ці блізкая табе гэтая тэматыка.

### Каго мы шукаем?

Нам патрэбныя актыўныя назіральнікі, якія падзяляюць прынцыпы аб'ектыўнасці і незалежнасці, гатовыя прайсці профільнае навучанне і на валанцёрскіх умовах назіраць на выбарчым участку ў любым зручным пункце краіны ў дзень галасавання 18 лютага, а па магчымасці — і падчас датэрміновага галасавання.

### Як стаць назіральнікам?

Для таго, каб назіранне ажыццяўлялася ўпэўнена і не мела наступстваў, прапануем прайсці невялікае дыстанцыйнае навучанне. Спецыяльна для гэтага мы распрацавалі відэакурс, які дазваляе дыстанцыйна азнаёміцца з тэмай грамадзянскага кантролю, атрымаць практычныя рэкамендацыі ад экспертаў па назіранні за выбарамі (відэалекцыі, дадатковыя матэрыялы і тэсты).

Папросту рэгіструйся на старонцы відэакурса, абавязкова прайдзі частку 1 і 2, астатнія — па жаданні. Потым пішы нам пра сваю гатоўнасць назіраць на мэйл: help@spring96.org.

Відэакурс даступны ўжо зараз, мы прымаем назіральнікаў за выбарамі да 1 лютага 2018 года, каб паспець зрабіць накіраванне на выбарчы ўчастак.

### Што гэта дае?

Удзел у назіранні за выбарамі дае неацэнны вопыт назірання, знаёмства з праваабаронцамі і пашырэнне ўласных гарызонтаў. Толькі будзь асцярожным — грамадзянскі кантроль трошкі «падсаджвае», потым будзеш кантраляваць усе дзяржаўныя органы і грамадска значныя падзеі.

У відэакурсе таксама ёсць дзве часткі аб тым, як назіраць за масавымі мерапрыемствамі (мы гэта робім часта, глядзіце вынікі) і судамі. Калі цікавяць гэтыя тэмы — праходзь відэакурс і пішы нам на мэйл: help@spring96.org — практычны вопыт гарантуем!

Увага!

Грамадскае назіранне адбываецца на добраахвотнай аснове. Назіранне не аплачваецца арганізатарамі.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Падтрымайма англічаніна Сміта!

**У выпраўленчай установе Дэпартамента выканання пакаранняў Рэспублікі Беларусь «ВК №3» адбывае пакаранне грамадзянін Вялікабрытаніі Алан Пол Сміт за нібыта арганізацыю незаконнай міграцыі.**



Пра гэта на сваёй старонцы ў сацсетках напісаў вядомы віцебскі праваабаронца Павел Левінаў пасля наведвання калоніі.

Алан у судзе сваю віну не прызнаў, смела заявіўшы аб ужыванні за кратамі катаванняў. Адмовіўся ён і ад прызнання віны ў абмен на абяцанне ўмоўна-датэрміновага вызвалення. Яму, як чалавеку, які не ведае ніводнай дзяржмовы Беларусі, значна лягчэй атрымаць спагнанне і апынуцца ў ШІЗА.

З-за адсутнасці сваякоў у Беларусі, ён пазбаўлены права на атрыманне перадач ад іх і спатканняў. Кіраўніцтва калоніі адмовілася выдаць сваякам дакументы для афармлення ўязной візы ў Беларусь для сустрэчы з Аланам.

Ад яго не паступаюць лісты на адрас праваабаронцаў. Аб накіраванні такіх лістоў Алан заяўляў прадстаўнікам консульства Вялікабрытаніі і ў судзе пры разглядзе апеляцыі на прысуд. Прадстаўнікі ж адміністрацыі калоніі з усмешкай заявілі, што ён проста не хоча мець зносіны з праваабаронцамі.

Паводле інфармацыі крыніцы з месцаў зняволення, Алан устойліва трымае ўдары беларускага «правасуддзя», а лісты ў адрас праваабаронцаў не выпускаюць, «бо ў іх утрымліваецца няздобрая інфармацыя пра Беларусь».

18 снежня начальнік калоніі адмовіўся сустрэцца з групай грамадзян, у якую ўваходзілі праваабаронца, журналіст і грамадская актывістка, што прыехалі на асабісты прыём па пытанні захавання правоў зняволеных. Начальнік зачыніўся ў кабінеце і вёў перамовы праз сваіх падначаленых.

Алан не павінен застацца адзін! Дасылайце яму віншавальныя лісты (паштоўкі) з каляднымі і навагоднімі святамі, у якіх, акрамя віншаванняў, выказвайце словы падтрымкі.

Лісты (паштоўкі) неабходна накіроўваць па адрасе:

Беларусь, 211300, Віцебская вобласць, Віцебскі раён, п. Віцьба, ВУ ДВП «ВК №3», атрад №5

**НЧ**

# «Спіс Тамковіча»: працяг будзе

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Журналіст Аляксандр Тамковіч прэзентаваў 19-ю (!) кнігу пад назвай «Мазаіка жыцця». Пра сваё жыццё аўтару шчыра распавялі найвядомейшыя беларусы — ад эпатажнага Адама Глобуса да нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч.**

«Усім нам пашанцавала, — адзначыў Аляксандр Тамковіч. — Цяпер ёсць магчымасць даведацца пра жыццё выдатных людзей сучаснасці, як кажуць, «з першакрыніц». У гэтым сэнсе «Мазаіка жыцця» — унікальная кніга, бо дае магчымасць пачуць не тое, што кажуць пра асобаў іншыя, а аповед іх саміх».

У кнізе 432 старонкі, з іх 31 фотаўкладка (124 старонкі) — агулам 381 фота. Большасць з іх — нікому не вядомыя здымкі з сямейных альбомаў. Адметна, што кніга з'явілася на свет дзякуючы краўдфандынгавай пляцоўцы Талака.бай — праз збор сродкаў. «Мазаіка жыцця» складаецца з біяграфічных аповедаў герояў, якіх аб'яднала імкненне дасягнуць творчых вышынь і непакорнасць «агульнай плыні», а часам і бунтарскі імпэт.

31 творчая асоба пагадзілася распавесці аўтару пра штосьці запаветнае з уласнага досведу. «Пранікнёны голас успамінаў. Без пафасу і ўзнёслых эпітэтаў. Голас шчырасці і прастаты», — так кажа пра стасункі са сваімі героямі Аляксандр Тамковіч.

Шмат хто з іх завітаў у мінскі Прэс-клуб, дзе адбылася прэзентацыя кнігі. Смех, жарты, цёплая атмасфера — у такім утульным асяродку праходзіла імпрэза. Мастак Алесь Пушкін зрабіў нечаканы падарунак аўтару — партрэт Тамковіча. «Падобны», — даў ацэнку карціне журналіст.

«Ёсць адзін знаёмы, з якім мы бачымся толькі на прэзентацыях кніг Аляксандра Тамковіча, — распавёў паэт Уладзімір Някляеў. — Паколькі такое адбываецца нярэдка, дзякуй за гэта аўтару!»

Аляксандр Уліцёнак, інфармацыйны кансультант кнігі, адзначыў «новы запыт» на веданне гісторыі Беларусі. «Гісторыя краіны падаецца ў звязку з гісторыяй канкрэтнага чалавека. Лічбы ўжо не працуюць. Ідзе асэнсаванне важнасці лёсу асобнага чалавека. Гэта падштурхоўвае да вывучэння свайго радаводу. Дзякуй, Саша, што вучыш нас любіць Беларусь!»

«Гонар нашай культуры, — сказаў пра сучаснікаў, якія трапілі ў «спіс Тамковіча», праваабаронца Алесь Бяляцкі. — Яны паказваюць, што Беларусь ёсць як нацыя, як народ. Пацверджанне гэтаму — лёсы гэтых людзей».

Зміцер Вайцюшкевіч і Васіль Шаранговіч, Андрэй Курэйчык і Алег Хаменка, Андрэй Хадановіч і Максім Жбанкоў, Віктар Марціновіч і Анатоль Тарас... Новая кніга стала лагічным працягам «Найноўшай гісторыі ў асобах» гэтага ж аўтара. «Да ста асобаў дадаліся яшчэ 31, але і гэтага будзе мала. Таму, калі дасць Бог, планую праз некаторы час запрасіць вас зноўку», — паабяцаў Аляксандр Тамковіч.

Дарэчы, большая частка нарысаў Тамковіча друкавалася на старонках «Новага Часу».

# Партыя БНФ можа застацца без офіса

**Такое можа здарыцца, калі Мінгарвыканкам не падоўжыць арэнду.**

Праўда, у каментары «Беларускаму партызану» кіраўнік партыі Рыгор Кастусёў выказаў надзею, што ўсё будзе добра.

Цяпер у партыі скончыўся трохгадовы тэрмін арэнды памяшкання. Сама арганізацыя мае фінансавыя праблемы: напрыклад, у верасні ў офісе на некалькі дзён адключалі электрычнасць за пазыкі. Тым не менш ПБНФ падала дакументы на працяг арэнды памяшкання па вуліцы Чарнышэўскага, 3.

Арэнда офіса каштуе партыі каля 1000 долараў штомесяц плюс камунальныя паслугі — агулам выходзіць каля паўтара тысячы долараў. На цяперашні час партыя аплаціла арэнду за рэгіянальныя офісы — у Магілёве, Віцебску і Гродне. «Але пэўнае фінансавае напружанне застаецца. З пачатку года павысіліся кошты на камунальныя паслугі. А нашы фінансавыя магчымасці, на жаль, не палепшыліся. Людзі, якія нас падтрымлівалі, таксама апынуліся ў складанай сітуацыі. Таму хоць самыя вострыя пытанні мы закрылі, фінансавае пытанне застаецца надзвычай актуальным», — тлумачыць Кастусёў.

**Паводле euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З верай у Дзеда Мароза

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вось ёсць жа такія людзі, якія да старасці вераць у цуды. З аднаго боку, ім можна пазайздросціць, — яны не згубілі фантазіі і чакання шчасця. А з іншага — нібыта і не разумеюць, што джын, які выконвае загады, бывае толькі ў казках.**

Вось Аляксандр Рыгоравіч на тыдні зацікавіўся праблемнымі момантамі ў эканоміцы. На нарадзе аб новых інструментах рэструктурызацыі даўгавых абавязкаў у эканоміцы ён зазначыў, што недапушчальна пастаянна перакладаць праблемы прадпрыемстваў і банкаў на бюджэт.

«Нам трэба сістэмна вызначыцца з гэтым пытаннем. Неабходны больш актыўны ўдзел банкаў у гэтых працэсах. Але самым актыўным павінен быць той, хто браў грошы. Нам варта прадугледзець дзейсныя меры аздараўлення фінансавай сітуацыі як на канкрэтных прадпрыемствах, так і ў галінах эканомікі», — заявіў ён.

Паводле яго слоў, толькі ў 2015 і 2016 гадах былі прыняты дзясятак рашэнняў па шэрагу прадпрыемстваў і галін на агульную суму $1,8 мільярда. Былі рэструктурызаваныя даўгі, даваліся адтэрміноўкі, растэрміноўкі пагашэння запазычанасці па крэдытах, выдаваліся бюджэтныя пазыкі. «Тады ўрад абяцаў, што, калі мы дапаможам нашым прадпрыемствам, то гэта будзе ў апошні раз. Патрэбны быў, з пункту гледжання ўрада, нейкі штуршок, і яны пачнуць эфектыўна працаваць, вернуць даўгі, — нагадаў Лукашэнка. — Зараз нядышоў час даўгі вяртаць, пагашаць пазыкі. Але зноў хваля прапаноў аб яшчэ адной рэструктурызацыі. Матывацыя тая ж: кленчанні, стогны, плач».

У сувязі з гэтым ён выказаў нараканні ў бок КДК і Адміністрацыі прэзідэнта — што згубілі кантроль над кадравымі пытаннямі, і ў бок прадпрыемстваў, якія па пазыках не разлічваюцца.

Але ж тут ёсць некалькі чароўных момантаў. Па-першае, хто прызначае кіраўнікоў прадпрыемстваў? Прызначае іх асабіста Лукашэнка. І ніякі КДК не ў стане паўплываць на гэтыя прызначэнні.

І па-другое. Калі разважаць лагічна, за кошт чаго можна аддаць пазыкі? Зразумела, ці зарабіць, ці зэканоміць. А як зарабляць і эканоміць, калі той жа самы Аляксандр Рыгоравіч патрабуе ўсім заробак па тысячы рублёў, і пры гэтым забараняе, напрыклад, звальняць працоўных, хоць бы і ў сувязі з рэструктурызацыяй? А калі дырэктар (прызначаны, зноў жа, Лукашэнкам) гэтыя планы, спушчаныя зверху, не выканае — чакае яго турма.

Такім чынам, чарговая нарада — усяго толькі чарговая спроба звярнуцца да Дзеда Мароза. Нібыта, калі загадае Лукашэнка, каб стратныя прадпрыемствы разлічваліся па пазыках, — жаданае здзейсніцца

І не адзін кіраўнік дзяржавы ў нас верыць у цуды. Яшчэ прыклад. Сам Аляксандр Рыгоравіч загадваў: не браць больш знешніх пазыкаў. Трэба вучыцца зарабляць і разлічвацца. Але ж…

Паводле дадзеных міністра фінансаў Уладзіміра Амарына, валютныя плацяжы Беларусі па дзярждоўгу у 2018 годзе складуць $3,8 мільярда. Менавіта такую лічбу ён назваў, прадстаўляючы ў парламенце праект бюджэту на 2018 год. Як сказаў Амарын, пагашэнне асноўнага доўгу пацягне на $2,5 мільярда і абслугоўванне — больш за $1,2 мільярда.

**$3,8**

**мільярда Беларусь павінна будзе заплаціць па дзяржДоўгу ў 2018 годзе. А ў бюджэце ў графе «абслугоўванне дзяржаўнага доўгу» мы пабачылі суму толькі ў 2,5 мільярда рублёў**

Нашы парламентары, нібы той Васька, што слухае, ды п'е, выслухалі спадара Амарына і прынялі бюджэт на наступны год. І ў графе «абслугоўванне дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь» мы пабачылі суму ў 2,5 мільярда рублёў.

Прычым, на абслугоўванне знешняга доўгу з гэтых 2,5 мільярда рублёў выдаткоўваецца толькі 1,95 мільярда. То бок, $975 мільёнаў па сённяшнім курсе.

Як бачым, гэтага не хопіць нават на тое, што запісана ў бюджэце: абслугоўванне (а не пагашэнне) доўгу. Наконт пагашэння — такой графы ў праекце бюджэту няма. Гэта значыць, будзем зноў «рэструктурызаваць»? Браць новыя пазыкі, каб пакрыць старыя?

То бок, слухалі дэпутаты Амарына — і не чулі. Галоўнае для іх было не задумацца над лічбамі, а прыняць бюджэт так, як загадаў Лукашэнка. А там хай іншыя думаюць, як потым круціцца. А можа раптам прыляціць чараўнік на блакітным верталёце — ды нешта зробіць.

Праўда, ёсць і тыя, хто на Дзеда Мароза не разлічвае. Хіба не сенсацыяй стаў выступ міністаркі працы і сацыяльнай абароны Ірыны Касцевіч, якая на просьбу дэпутата Вольгі Палітыка агучыла прагноз урада па заробках на 2018 год. Дык вось, пры кансерватыўным сцэнары развіцця эканомікі (а менавіта такі ў нас прымаецца за аснову), бюджэтнікі будуць атрымліваць у сярэднім 700 рублёў, а сярэдняя зарплата па краіне складзе 921 рубель. Калі ж, як выказалася Касцевіч, эканоміка спрацуе добра, то сярэдні заробак у бюджэтнай сферы дасягне 760 рублёў, а па краіне — 941 рубель. Для параўнання: апошні паказчык у кастрычніку 2017 года ў Беларусі быў роўны 841 рублю.

І калі вы ў наступны раз па тэлевізіі пачуеце пра 1000 рублёў сярэдняга заробку, ведайце — гэта апеляцыя да Дзеда Мароза. Нават бюджэт такой лічбы не прадугледжвае.

Але ж грошы з неба не падаюць. Іх трэба недзе браць. Чарговую цікавую навацыю ў гэтым плане прыдумалі ў Маладзечне. Як піша «Рэгіянальная газета», у маладзечанскай школе №14 для бацькоў зрабілі платны ўваход на дзіцячыя ранішнікі. Каб паглядзець на сваё дзіця ў касцюме зайчыка аб сняжынкі, давядзецца выкласці рубель дваццаць капеек. Многіх бацькоў абурае не кошт, але сам факт аплаты.

Дырэктарка школы Каліна Капуцкая ў гэтым не бачыць нічога страшнага: «Кожная школа мае права аказваць платныя адукацыйныя паслугі. Паказ канцэрта — гэта таксама выхаваўчая праца калектыву нашых педагогаў. Таму і ўстанавілі сімвалічны кошт — рубель і дваццаць капеек».

Цікава, каго павінен выхоўваць калектыў педагогаў? Дзяцей або бацькоў, якія і плацяць за ўваход на ранішнік?

Але самае цікавае ў тым, што адпаведны прэйскурант на паслугі школа атрымала ў аддзеле адукацыі Маладзечанскага райвыканкама. То бок, гэта не нейкая бздура дырэктаркі, а мэтанакіраваная палітыка мясцовай улады.

І на заканчэнне — навіна прыемная. Штотыднёвік «Белгазета» часткова стане беларускамоўным. «Даўно было жаданне, каб выданне паступова станавілася больш беларускім. Я сам 100% перайду на беларускую мову ў наступным годзе. Акрамя таго, у нас з'явяцца аўтары, якія пішуць выключна па-беларуску», — распавёў новы дырэктар «Белгазеты» Кірыл Жываловіч.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Святлана Калінкіна

**Вядомая журналістка і рэдактарка ў самыя сціслыя тэрміны дамаглася ўзнаўлення працы сайта «Беларускі партызан».**

Нагадаем, інтэрнэт-рэсурс «Беларускі партызан» перастаў адчыняцца ў беларускіх карыстальнікаў з 14 снежня. Міністэрства інфармацыі паведаміла, што прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да сайта. «Дадзенае рашэнне прынята па выніках маніторынгу гэтага рэсурсу, які выявіў сістэматычнае парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі», — гаворыцца ў паведамленні.

Паводле звестак ведамства, на інфармацыйным рэсурсе рэгулярна размяшчаліся матэрыялы, у якіх утрымлівалася забароненая інфармацыя. Міністэрства звярнула ўвагу на тое, што сайт размешчаны па-за межамі нацыянальнага сегмента сеткі інтэрнэт.

Святлане Калінкінай не ўдалося атрымаць ад Мініфарму тлумачэнняў, за якія грахі «Партызан» быў заблакаваны, бо яна не з'яўляецца ўладальнікам рэсурсу. А ўладальнік — Павел Шарамет — быў забіты ў Кіеве ў мінулым годзе. Ускосна высветлілася, што Мініфармацыі мела прэтэнзіі да каментарыяў на сайце.

Тым не менш, перавёўшы сайт у даменную зону by, Калінкіна здолела захаваць выданне. Прычым, з мінімальным тэрмінам «прастою». У нашых умовах гэта выглядае як подзвіг.



## Аляксей Бягун

**Беларусь і Еўрапейскі саюз цалкам узгаднілі праект пагаднення аб рэадмісіі. Гэта ці не лепшая навіна з часоў увядзення ў Беларусі пяцідзённага «бязвіза».**

Як паведаміў начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Аляксей Бягун, зараз праект гатовы да далейшых кансультацый і падпісання. У 2018 годзе чакаецца візіт дэлегацыі экспертаў ЕС у Беларусь. Дэталі іх прыезду будуць абмяркоўвацца 20 снежня на кансультацыях паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам. Яны павінны прыбыць для канчатковага абмеркавання праекта пагаднення па спрашчэнні візавых фармальнасцяў.

Цяпер бакі вядуць перамовы наконт зацвярджэння адразу двух пагадненняў: спрашчэння візавых працэдур і рэадмісіі, якія павінны быць падпісаны разам.

Пасля гэтага шэнгенскія візы для беларусаў патаннеюць з 60 да 35 еўра, а спіс дакументаў для іх атрымання скароціцца.



## Сяржук Доўгушаў

**Лідар гурта «Vuraj» і арганізатар «Спеўных сходаў» з'язджае з Беларусі. Амаль да канца лета 2018 года музыка будзе жыць у Варшаве, а потым, магчыма, пераедзе ў ЗША.**

Доўгушаў кажа, што даўно хацеў рэалізаваць сябе па-за межамі Беларусі, бо не мае дзяржаўнай падтрымкі для культурных праектаў. «Хочацца новых стасункаў і сувязяў. Абвастрыла жаданне змяніць месца пражывання няпростае фінансавае становішча: знаходзіць грошы для арганізацыі мерапрыемстваў усё складаней», — патлумачыў музыка.

Ён падаў заяўку на стыпендыю Міністэрства культуры Польшчы «Gaude Polonia» і днямі выйграў яе. У Польшчы Доўгушаў працягне папулярызаваць беларускую музыку і традыцыі. Толькі цяпер многія мерапрыемствы будуць рабіцца разам з палякамі.

Музыка запэўнівае, што з яго праектамі — «Спеўным сходам» і гуртом «Vuraj» — не будзе нічога страшнага. «Па-першае, шмат спеўных сходаў будзе праводзіцца непасрэдна ў Польшчы для беларусаў, якія там жывуць. Па-другое, у Беларусі ўжо сфармавалася незалежная каманда, якая працягне арганізатарскую дзейнасць і без мяне. Ды я і сам буду прыязджаць на імпрэзы раз на месяц: усё ж Варшава — гэта не такі далёкі свет. Што тычыцца "Vuraj", то, спадзяюся, атрымаецца запрасіць калектыў на месяц у Варшаву, каб на якасным узроўні запісаць там новы альбом», — падзяліўся Доўгушаў сваімі планамі.

Таксама ён хоча стварыць «Спеўнаму сходу» сайт, каб людзі мелі магчымасць заходзіць туды і самастойна запісваць фанаграмы, знаходзіць народныя песні.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму не атрымліваецца стварыць «партыю ўлады»

**Прапрэзідэнцкая партыя — гэта інструмент мабілізацыі насельніцтва для рэалізацыі задач яе кіраўніцтва.**




Галоўнымі характарыстыкамі сучаснага свету з'яўляюцца няпэўнасць, складанасць і разнастайнасць. Каб праілюстраваць гэту глабальную выснову, звернемся да абстрактнага прыкладу. І тут мне спатрэбіцца машына часу, з дапамогай якой я прапаную чытачам перамясціцца на 500 гадоў у мінулае.

Уявім на хвіліну сярэднестатыстычную маладую сям'ю (французскую, напрыклад, ці кітайскую, прынцыповага значэння не мае), у якой нарадзіўся першынец. З верагоднасцю больш за 90% гэта будзе сялянская сям'я. Здзіўляцца гэтаму не варта: у сярэднявеччы асноўным заняткам насельніцтва была сельская гаспадарка. Для асабліва дапытлівых адзначу, што, нават згодна з перапісам 1897 года, гарадское насельніцтва ў Расійскай імперыі складала 13,4% (у Беларусі — 14,5%).

А зараз — увага! — пытанне. Дакладней, два пытанні. Ці турбавала маладых бацькоў прафесійная будучыня першынца, і якую прафесію, на вашу думку, ён бы абраў?

Нягледзячы на тое, што ні аўтар «Азбукі паліталогіі», ні большасць яго чытачоў не з'яўляюцца спецыялістамі па гісторыі сярэднявечча, думаю, што пошук адказаў на гэтыя пытанні не выклікае ніякіх складанасцяў, бо праблемы выбару, тым больш выбару прафесійнага, для чалавека сярэднявечча не існавала.

Калі ён нарадзіўся ў сям'і селяніна, дык станавіўся селянінам, калі ў сям'і ганчара — ганчаром. Калі ж яму пашчасціла нарадзіцца ў сям'і, напрыклад, герцага Бекінгема, то першынец атрымаў бы ў спадчыну тытул і маёнткі, а астатнім нашчадкам па мужчынскай лініі была б наканаваная кар'ера вайскоўцаў, чыноўнікаў ці святароў.

А зараз вернемся ў сучаснасць. У кожнага чытача ёсць родныя ці знаёмыя дзеці малодшага школьнага ўзросту. Якая прафесійная будучыня іх чакае? Адказаць на гэта пытанне сёння не зможа ніхто, у тым ліку і бацькі дзяцей, колькі б намаганняў яны для гэтага ні прыкладалі. Працытую сам сябе: «галоўнымі характарыстыкамі сучаснага свету з'яўляюцца няпэўнасць, складанасць і разнастайнасць». Таму праз 15 гадоў шмат хто з сённяшніх першакласнікаў будзе асвойваць прафесіі, якія яшчэ нават не існуюць.

## Паводле рэцэпту Навуханосара

Аднак пяройдзем да азбукавага аналізу. Тут мне спатрэбіцца закон неабходнай разнастайнасці Уільяма Эшбі: «Каб кіраванне сістэмай было магчымым, разнастайнасць кіруючых дзеянняў павінна быць не меншай за разнастайнасць абурэнняў на ўваходзе ў сістэму». Для замацавання думкі можна прывесці і фармулёўку Стафарда Біра: «Адэкватнае кіраванне можа быць забяспечана толькі ў тым выпадку, калі разнастайнасць сродкаў кіраўніка як мінімум не меншая, чым разнастайнасць кіраванай ім сітуацыі».

У гады маёй студэнцкай маладосці на занятках па марксісцка-ленінскай філасофіі мне даходліва патлумачылі, што законы прыроды аб'ектыўныя, г.зн. дзейнічаюць незалежна ад чалавечай свядомасці. Мы можам ведаць законы і дзейнічаць у адпаведнасці з імі, а можа не ведаць — і выбудоўваць свае паводзіны «ад жыцця». Законам ад гэтага не горача і не холадна, чаго не скажаш пра выніковую эфектыўнасць нашых намаганняў.

Хочам мы гэтага ці не, але чара нявызначанасці, ускладнення і разнастайнасці не абмінула і беларускае грамадства. Чым жа адказваюць на выклікі адзіны палітык (АП) і калектыў вертыкальшчыкаў, згуртаваны пад яго кіраўніцтвам? Гэта не таямніца: калі адкінуць прапагандысцкае бла-бла-бла, усё зводзіцца да СПРАШЧЭННЯ, і ў першую чаргу — да спрашчэння сродкаў кіравання!

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. 7 снежня АП разгледзеў кадравыя пытанні. Сярод прызначэнцаў — кіраўнікі адміністрацый раёнаў і старшыні райвыканкамаў — вертыкаль. Для тлумачэння мне спатрэбіцца цытата з Паслання–2017: «Дрэнная гэта ці добрая вертыкаль улады — кожнаму не дагодзіш. Але гэта тое, што трымае нашу краіну».

Згодна з ужо цытаваным вышэй Уільямам Эшбі, «узровень разнастайнасці элементаў, якія складаюць сістэму, вызначае ўзровень яе стабільнасці... Чым багацейшая складаная сістэма на разнастайнасць сваіх элементаў, тым яна стабільнейшая». Беларуская мадэль трымаецца на ўладнай вертыкалі. З гэтым не паспрачаешся. Але вертыкаль — нешта з часоў вавілонскага цара Навуханосара (1127–1105 да н. э.). Прасцей і прыдумаць немагчыма!

**Наколькі б прапрэзідэнцкай у момант свайго стварэння партыя «Белая Русь» ні была, яна стане інструментам для рэалізацыі канкрэтнай групай эліты сваіх прыватных інтарэсаў**

Таму «адзіны палітык» і паўтарае як замову: «Стабільнасць, стабільнасць, стабільнасць, няма нічога больш важнага за стабільнасць». І ён мае рацыю. Ой як няпроста ў наш час падтрымліваць стабільнасць сістэмы, пазбаўленай гарызантальных сувязяў. Гэта як тэлевежа ў Калодзішчах, але толькі без расцяжак.

7 снежня былі прызначаныя і два рэктары ўніверсітэтаў. Ну што тут можна сказаць? Не дараслі яшчэ беларускія «таварышы навукоўцы, дацэнты з кандыдатамі» да права самастойна выбіраць сабе кіраўніка. Да выбараў кіраўніка дзяржавы дараслі, а да выбараў кіраўнікоў універсітэтаў — не.

## А гэта ўжо выключна палітыка!

Яшчэ адзін прыклад намаганняў АП па спрашчэнні — чарговая няўдалая спроба РГА «Белая Русь» трансфармавацца ў партыю. Здавалася б, ніякіх аб'ектыўных перашкодаў для гэтага няма, і, паводле заявы старшыні РГА — не апошняга чалавека ва ўладнай іерархіі Аляксандр Радзькова, — масавасць аб'яднання дапамагае яго чальцам знаходзіцца ў глыбокім жывым кантакце з людзьмі, адчуваць змены і вастрыню сацыяльных праблем. Акрамя таго, інтэлектуальны патэнцыял аб'яднання таксама значны. Ён дазваляе весці працу па асэнсаванні тэндэнцый, якія адбываюцца ў краіне, і магчымых траекторый развіцця беларускага грамадства.

«Ну і файна», — скажа чытач. Аднак ёсць адно «але». Як растлумачыў яшчэ ў студзені 2012 года ў праграме «Карціна свету» на канале «РТР-Беларусь» акадэмік Анатоль Рубінаў, АП не хоча ператвараць РГА у партыю, бо ён баіцца наменклатурнай партыі.

Аўтары бестселера «Гвалт і сацыяльныя парадкі» нобелеўскі лаўрэат Дуглас Норт, Джон Уоліс і Бары Вайнгаст прапануюць новы погляд на праблему гвалту, згодна з якім большасць грамадстваў, якія належаць да «натуральных дзяржаваў» (НД), абмяжоўваюць гвалт пры дапамозе палітычнага маніпулявання эканомікай шляхам стварэння прывілеяваных груп інтарэсаў. З іншага боку, сучасныя грамадствы ствараюць парадак адкрытага доступу (ПАД) да эканамічных і палітычных арганізацый, стымулюючы палітычную і эканамічную канкурэнцыю.

Сваё прывілеяванае становішча эліты НД падтрымліваюць за кошт манапольнага права на стварэнне арганізацый, якія карыстаюцца падтрымкай дзяржавы. Даючы доступ да гэтых прывілеяй толькі чальцам пануючай кааліцыі, эліты ствараюць надзейныя стымулы супрацоўнічаць, а не змагацца адзін з адным. Так палітычная сістэма НД маніпулюе эканамічнай сістэмай для стварэння рэнты, якая затым забяспечвае палітычны парадак.

Аўтары бестселера вылучаюць тры тыпы НД:

- кволыя, што нyздольныя падтрымліваць любыя арганізацыі і саму дзяржаву (да гэтага тыпу яшчэ нядаўна належала большасць афрыканскіх дзяржаў);
- базавыя, што могуць падтрымліваць арганізацыі, але толькі ў рамках дзяржавы;
- сталыя, што здольныя падтрымліваць шырокі шэраг элітарных арганізацый, якія не знаходзяцца пад непасрэдным кантролем дзяржавы.

А цяпер паспрабуем вызначыць месца «беларускай мадэлі» ў гэтай тыпалогіі.

На стадыі кволай НД Беларусь знаходзілася ў пачатку 1990-х, калі, паводле трапнай заўвагі АП, «улада літаральна валялася ў брудзе». Пераход да базавай НД суправаджаўся манапалізацыяй кіруючай групоўкай права на стварэнне арганізацый. Аднымі з першых гэта ўсвядомілі прадстаўнікі СМІ, якія сутыкнуліся з фактычнай забаронай на рэгістрацыю грамадска-палітычных выданняў.

Пошукавік Google прапануе і больш свежыя прыклады. Абмяжуюся інфармацыяй ад 20 жніўня 2015 года: «Міністэрства юстыцыі Беларусі пяты раз адмовілася рэгістраваць партыю «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Цяпер нам зразумелая прычына нежадання АП дапусціць трансфармацыю РГА «Белая Русь» у партыю. Наколькі б прапрэзідэнцкай у момант свайго стварэння партыя ні была, яна стане інструментам для рэалізацыі канкрэтнай групай эліты сваіх прыватных інтарэсаў, галоўным з якіх з'яўляецца павелічэнне пайкі пры дзяльбе адміністрацыйнай рэнты.

І што асабліва важна, з дапамогай гэтага інструмента кіраўніцтва партыі атрымае магчымасць выйсці за межы элітнага міжсабойчыку і мабілізаваць насельніцтва для рэалізацыі ўласных задач. А гэта ўжо — чыстая палітыка! Таму інакш як прамы выклік сваёй манаполіі на палітычную дзейнасць АП успрымаць ініцыятыву Радзькова не можа.

Такой элітнай вольнасці павінен папярэднічаць пераход ад базавай да сталай НД. Гэта агульнасусветная практыка, але я не ўпэўнены, што ён будзе здзейснены пры цяперашнім гаспадары Палаца Незалежнасці.

# Аляксандра Кузьміч: У беларусаў няма культуры адстойвання сваіх правоў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі вы пачынаеце змагацца за свае правы і выходзіць з ценю, гэта пераводзіць вас у групу рызыкі. Пра ціск на студэнтаў у беларускіх ВНУ, а таксама пра тое, якім павінен быць універсітэт, мы пагутарылі з прадстаўніцай Задзіночання беларускіх студэнтаў Аляксандрай Кузьміч.**



Задзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС) займаецца абаронай правоў навучэнцаў беларускіх ВНУ і прасоўвае ідэю студэнцкага ўдзелу ва ўніверсітэцкім жыцці. Арганізацыя ладзіць асветніцкія мерапрыемствы, праводзіць маніторынгі парушэння правоў студэнтаў, падтрымлівае студэнцкую моладзь. Падчас сёлетніх сакавіцкіх пратэстаў ЗБС арганізавала збор касы ўзаемадапамогі для студэнцкіх актывістаў і актывістак, якім прысудзілі штрафы і пасадзілі на суткі. З'яўляючыся часткай Еўрапейскага саюза студэнтаў, сябры ЗБС распавядаюць еўрапейскай супольнасці пра тое, што адбываецца ў студэнцкім асяроддзі, і прасоўваюць у Беларусі каштоўнасці Балонскага працэсу.

***— Падчас аднаго з апошніх абмеркаванняў праблем беларускай адукацыі вы сказалі, што студэнцтва ў Беларусі няма. Чаму так сталася, і што вы разумееце пад «студэнцтвам»?***

— Я мела на ўвазе, што няма студэнцкага руху. Напрыклад, увесну ў Будапешце, калі зачынялі Еўрапейскі ўніверсітэт, пратэставаць супраць гэтага выходзілі не толькі студэнты, а шырокія масы людзей, неабыякавых да той сітуацыі. У Беларусі такога няма. У нас пратэсты, нават калі і ёсць, дык лакальныя. Але значна горш, што сітуацыі парушэнняў правоў студэнтаў увайшлі ў статус нормы. Падчас кожных выбараў студэнтаў прымушаюць датэрмінова галасаваць, а калі гэта выбары прэзідэнцкія, то іх яшчэ і просяць з'ехаць з інтэрнатаў у асноўны дзень галасавання — на выпадак, калі будуць нейкія масавыя пратэсты. Збольшага студэнты пагаджаюцца з гэтым. У беларусаў у прынцыпе няма культуры адстойвання сваіх правоў.

***— Але ж тым, хто спрабуе гэта рабіць, пагражаюць санкцыямі, і мы ведаем шматлікія прыклады адлічэння студэнтаў з універсітэтаў за актыўнасць. Што рабіць, калі паўстае выбар паміж навучаннем і прынцыпамі?***

— Ёсць такая прымаўка: калі народ паміж свабодай і хлебам выбірае хлеб, дык рана ці позна ў яго не будзе ні хлеба, ні свабоды. Гэта тое, што адбываецца і ў студэнцтве. Але заўжды можна паспрабаваць абараніцца. Трэба разумець, што калі цябе хочуць адлічыць, — гэта зробяць пры любым раскладзе, і тут не ўратуе ні выдатная вучоба, ні адсутнасць пропускаў, ні ўдзел ва ўніверсітэцкіх канцэртах. Але для большасці студэнтаў і студэнтак гэта не актуальна, таму трэба проста выконваць базавыя правілы бяспекі: не прагульваць пары, больш-менш старанна вучыцца, не спісваць на іспытах, а таксама адсочваць усё, што ў дачыненні да цябе робіць дэканат.

Нядаўна да мяне звярнуўся хлопец, які ўдзельнічаў у праграмах моладзевага абмену, і цяпер яго настойліва выклікаюць на размову ў КДБ. Для мяне гэта было адкрыццём, бо я думала, што такая практыка ўжо даўно «згубілася ў вяках».

***— За што можна трапіць пад такую пільную ўвагу адміністрацыі ВНУ і органаў дзяржбяспекі?***

— На самай справе, прычынай можа стаць што заўгодна — калі вы не падабаецеся свайму дэкану, паводзіце сябе дзёрзка альбо з'яўляецеся актывістам ці актывісткай нейкай арганізацыі. На журфаку напачатку года, калі толькі змяніўся рэктар і пачалося «навязднне парадку», пад увагу трапілі ўсе, хто знаходзіліся і актыўна ставілі «лайкі» ў сацсетках у суполцы «Падслухана», а таксама хто збіраўся пайсці на традыцыйны сход першакурснікаў у бліжэйшым скверы. Студэнтам, якія хацелі туды пайсці, казалі, што на сход прыедзе атрад АМАПу. Калі глядзіш на гэтую сітуацыю з вышыні сваіх студэнцкіх гадоў, яна падаецца смешнай, але для першакурснікаў гэта было страшна, і, наколькі я ведаю, ніхто на тую сустрэчу не пайшоў.

> **Сапраўдных універсітэтаў у Беларусі няма. Ёсць назва, але, фактычна, гэта рэфармаваная школа. Тое, як павінен выглядаць універсітэт, напісана ў «Вялікай хартыі ўніверсітэтаў»**

Калі вы пачынаеце змагацца за свае правы і выходзіць з ценю, гэта пераводзіць вас у «групу рызыкі». Таму цяпер Задзіночанне беларускіх студэнтаў вядзе працу, каб чалавек не заставаўся адзін супраць універсітэту, і абараняе яго правы ад імя арганізацыі.

***— Калі ўжо згадалі ўніверсітэт, чым з пункту гледжання студэнцтва ёсць сённяшнія беларускія ўніверсітэты, і ці магчыма для нашых ВНУ ўвогуле прымяняць такое азначэнне?***

— Мы ўжо некалькі гадоў рэалізуем праект «Акадэмія студэнцкага лідарства», накіраваны на тое, каб студэнты маглі нешта змяніць да лепшага ў сваіх ВНУ. Але пасля паўгода працы ў праекце актыўныя людзі прыходзяць да эмацыйнага выгарання, таму што нашы ўніверсітэты — гэта непад'ёмныя махіны, якія адзін чалавек не можа зварушыць.

Увогуле, сапраўдных універсітэтаў у Беларусі няма. Ёсць назва, але, фактычна, гэта рэфармаваная школа. Тое, як павінен выглядаць універсітэт, прапісана ў Дарожнай карце Балонскага працэсу і «Вялікай хартыі ўніверсітэтаў» (Magna Charta Uneversitatum), да якой, дарэчы, нядаўна далучыўся БДУ. Цікавая сітуацыя: Белдзяржуніверсітэт у 2015 годзе стаў афіцыйнымі сябрамі Magna Charta, а з 2015 года да сённяшняга дня з яго адлічылі 10 студэнтаў за актыўную грамадзянскую пазіцыю. Пры тым, у Magna Charta гаворыцца пра акадэмічныя каштоўнасці і пра тое, што ўсе падзеі па-за межамі ўніверсітэта ніяк не павінны ўплываць. Універсітэты, якія заяўляюць пра сваю апалітычнасць — і з гэтай нагоды забараняюць студэнтам удзельнічаць у акцыях БНФ ці «Маладога фронту» — фактычна падтрымліваюць супрацьлеглую палітычную сілу. У кожным універсітэце ёсць аддзел «Белай Русі», якая пакуль што з'яўляецца грамадскай арганізацыяй, але, па сутнасці, выконвае ролю партыі. Ва ўсіх універсітэтах вы знойдзеце БРСМ, і ў ніводным няма ЗБС — не таму, што нас мала ці нам лянота, а таму, што нас не пускаюць ва ўніверсітэты.

Я б хацела бачыць ва ўніверсітэтах адсутнасць цэнзуры і большую свабоду для студэнцтва. Пакуль — мне страшна пра гэта казаць — трэба проста змірыцца з тым, што ўніверсітэцкая адукацыя такая, якая ёсць, і калі вам яна не падабаецца, трэба ісці і даадукоўвацца.

***— Але што рабіць з неадпаведнасцю адукацыі сучасным патрабаванням рынка працы? І калі адменіць размеркаванне выпускнікоў, ці змогуць яны знайсці сабе працоўнае месца пры досыць абмежаванай прапанове працадаўцаў?***

— Размеркаванне не вырашае гэтага пытання, а маскіруе яго. Размеркаванне проста затыкае дзіркі. Ёсць методыкі, па якіх працуюць заходнія ўніверсітэты ва ўмовах рынкавай эканомікі, і ігнараваць гэтыя мадэлі — глупства. Заменай размеркавання мог бы стаць Цэнтр кар'еры, дзе збіраліся б прапановы ад працадаўцаў, рэзюмэ ад выпускнікоў. Таксама трэба наладзіць сувязь універсітэтаў з бізнесам. Напрыклад, я вучылася ў БДУіРы, там ёсць некалькі аўдыторый, зробленых Itransition, EPAM і іншымі IT-кампаніямі, дзе яны праводзяць курсы не толькі для студэнтаў універсітэта, а для ўсіх ахвотных. І калі б гэтыя кампаніі маглі казаць, якія кваліфікацыі спецыялістаў ім патрэбныя, а ўніверсітэт бы рыхтаваў такіх спецыялістаў — адукацыя была б рэлевантнай патрабаванням бізнесу.

***— Як вядома, Беларусь не выканала большасць патрабаванняў Дарожнай карты, і ўвесну паўстане пытанне наконт далейшага лёсу нашай краіны ў Балонскім працэсе. Што б вы прапанавалі ў гэтай сітуацыі?***

— Падчас апошняга з'езду Еўрапейскага саюза студэнтаў некалькі тыдняў таму была прынята рэзалюцыя за працяг Дарожнай карты да 2020 года, а таксама ў ёй змешчаны заклік да беларускага ўраду праводзіць больш глыбокія рэформы. І хоць непасрэдна гэтая рэзалюцыя не можа ні на што ўплываць, яна акрэслівае пазіцыю еўрапейскай студэнцкай супольнасці. Апроч таго, мы спрабуем атрымаць ліст падтрымкі ад польскага Міністэрства адукацыі, каб Польшча падняла гэтае пытанне (працягу Дарожнай карты. — аўт.) на Саміце міністраў адукацыі ў траўні 2018 года ў Парыжы. Бо пакуль увогуле не вядома, ці будзе яно ў павестцы дня.

Альтэрнатыва працягу Дарожнай карты — альбо выключэнне Беларусі з Балонскага працэсу, альбо талераванне парушэнняў. Але цяпер у Беларусі ідзе закамерны працэс рэфармавання адукацыі. Прынамсі, ёсць план рэформаў, ёсць удзел еўрапейцаў і грамадзянскай супольнасці ў гэтым. Была б воля Міністэрства адукацыі — яны б нас і блізка не падпусцілі, а так мы сустракаемся ўсе разам, калі ў Беларусь прыязджае Advisory group, бо абавязковы пункт падчас іх прыезду — сустрэча з грамадзянскай супольнасцю. Цяпер у нас ёсць поле, у якім можна дзейнічаць, а калі не будзе Дарожнай карты, яно знікне, і ў дзяржавы не будзе ніякіх падпісаных ёй абавязкаў.





Фота www.i.ytimg.com

**9 красавіка 2002 года адбылося праслухоўванне. Усе варыянты ішлі па алфавіце спачатку ў выкананні Узорна-паказальнага аркестра Узброеных Сіл, потым — Дзяржаўнага акадэмічнага хору тэлебачання і радыё і хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У апошнюю чаргу ўсе варыянты гімна выконваліся толькі хорам без суправаджэння**

# Карызна супраць Карэнды і неўміручы Сакалоўскі

## Пятнаццаць гадоў таму вырашылася дылема з дзяржаўным гімнам Беларусі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

***Калі народ не мае голасу, гэта нават адчуваецца пры сяпванні гімна.***
***Станіслаў Ежы Лец***

У вечары 7 снежня 2002 года на плошчы 8 Сакавіка жыхары і госці сталіцы маглі назіраць незвычайную падзею: абкружаныя з усіх бакоў моцнымі зенітнымі пражэктарамі і пад акампанемент аркестра Мінскага вайсковага гарнізона, разам спявалі тры тысячы чалавек. Адбываўся запіс тэлеверсіі ўсенароднага спеву новага дзяржаўнага гімна, якую планавалася запусціць на Новы год.

Такім чынам у Беларусі была пастаўлена кропка ў эпапеі стварэння гэтага неад'емнага сімвала любой краіны і ўлады.

### Незаўважаная паўза

Публікацыя ў газеце «Советская Белоруссия» 13 мая 1995 года артыкула «Там ли мы ищем автора гимна?» з нападкамі на стваральніцу «Магутнага Божа» Наталлю Арсенневу гаварыла пра тое, што ў справе распрацоўкі і прыняцця дзяржаўнага гімна наступіла пэўная паўза. Аднак шмат грамадзян дасылалі асабістыя прапановы гімну па інерцыі. Большасць лістоў сведчыла, што пасля змены дзяржаўнай сімволікі праз рэферэндум 14 мая 1995 года іх аўтары паддаліся агульнай кан'юнктуры: у прапанаваных тэкстах дамінавала ідэя славянскага адзінства, памкненняў да Расіі і культываванне вобразу Белай Русі. Вось, напрыклад, як гучаў пасаж жыхара Мінска Уладзіміра Шматкова (май 1995 года):

*Вставайте, братья-белорусы!*
*Пора рассветная пришла.*
*Вставайте, дети Белой Руси!*
*Нас ждут великие дела!*

Ветэран вайны і працы Аляксандр Мельнік 5 студзеня 1996 года прапанаваў свой тэкст, у якім былі такія радкі:

*Мы, белорусы — славянские народы.*
*У нас развивается наука, культура,*
*Производство станков, тракторов,*
*Могучих машин самосвалов.*
*Колышутся колосья хлебов и льна*
*голубые поля.*

Падобныя лісты прыходзілі рэгулярна, і ў асноўным — у прэзідэнцкую адміністрацыю, прычым нярэдка з асабістым зваротам да «шаноўнага Аляксандра Рыгоравіча». Некаторыя лісты з гімнамі суправаджаліся вершамі, якія ўсяляк услаўлялі кіраўніка дзяржавы: накшталт «родился в деревне Александрия под знаком Девы Марии».

Колькі лістоў на імя кіраўніка Беларусі прыходзіла з прапановамі з Расіі. Напрыклад, 5 снежня 1996 года жыхар Барнаула С. Басаў, звяртаючыся да Лукашэнкі, якому, нібыта, «выпала историческая миссия быть главным объединителем земель великой Руси», пісаў, што для новага дзяржаўнага гімна Беларусі трэба пакінуць музыку былога дзяржаўнага гімна СССР: «Пусть она звучит как символ единения, пусть она зовет народы на священное право интегрироваться в одну братскую дружную семью». У кастрычніку 2000 года пенсіянер з Санкт-Пецярбургу Барыс Кудравец таксама прапанаваў Лукашэнку выкарыстоўваць для дзяржаўнага гімна знакамітую музыку Аляксандра Аляксандрава і наступныя словы ў тэксце:

*Союз Беларуси с Россией любимой*
*Сплотила навеки Великая Русь.*
*Да здравствует, созданный волей единой,*
*Народный, могучий, наш Братский союз!*
*Припев:*
*Славьтесь республики наши свободные,*
*Дружба народов — надежный редут!*
*С именем Господа — силы народные*
*Светлой дорогой к победам ведут!*

Прэзідэнцкая адміністрацыя звычайна пераадрасоўвала гэтыя звароты ў Міністэрства культуры, і тагачасны першы намеснік міністра Уладзімір Рылатка рабіў рытуальныя адпіскі: маўляў, ваш праект гімна ўзяты на кантроль і будзе перададзены на разгляд у адпаведную камісію ў выпадку абвяшчэння конкурсу.

Але пытанне з гімнам трэба было вырашаць. Тым больш, што ў суседняй Расіі напрыканцы 2000 года быў зацверджаны новы дзяржаўны гімн. Пачынаючы з 2001 года, у прэзідэнцкую адміністрацыю і ў Савет Міністраў ад дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, а таксама ад праўладных грамадскіх арганізацый неаднаразова прыходзілі лісты з прапановамі абвясціць конкурс на новы дзяржаўны гімн Беларусі.

### Нябачныя эксперты

Нарэшце 7 снежня 2001 года на імя Лукашэнкі паступіла дакладная запіска №10/439 за подпісам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава. У запісцы гаворка ішла пра тое, каб да 1 студзеня 2002 года стварыць адпаведную камісію і распрацаваць праект палажэння аб конкурсе. Таксама планавалася, што да 1 мая 2002 года будзе праведзены конкурс, а да 1 чэрвеня тэкст і музыку прадставяць на зацвярджэнне кіраўніку дзяржавы. Сам жа новы гімн павінен быў быць выкананы 3 ліпеня на Дзень Рэспублікі.



3 студзеня 2002 года распараджэннем кіраўніка ўрада Генадзя Навіцкага была створана камісія на чале з намеснікам старшыні Савета Міністраў Уладзімірам Дражыным. У склад камісіі ўвайшлі міністр культуры Леанід Гуляка, міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны, начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта, памочнік прэзідэнта, паэт Іван Карэнда, малады Лукашэнкаўскі фаварыт, старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў і іншыя.

Першае пасяджэнне камісіі адбылося 23 студзеня 2002 года. Яна прыняла рашэнні, датычныя арганізацыйнай працы, збору матэрыялаў, гуказапісу варыянтаў гімна і г.д. На гэтым пасяджэнні была створана экспертная група ў складзе Уладзіміра Рылаткі (кіраўнік), Таццяны Пархамовіч, галоўнага спецыяліста ўпраўлення мастацтва міністэрства культуры, Радаславы Аладавай, дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Уладзіміра Карызны, паэта і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, Раісы Баравіковай, галоўнага рэдактара часопіса «Алеся», Таісы Бондар, галоўнага рэдактара часопіса «Сусветная літаратура», Эльвіры Алейнікавай, дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Генадзя Пашкова, галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», Вольгі Савіцкай, дактаранта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Льва Муранава, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Менавіта гэтае кола людзей павінна было вырашаць лёс прапанаваных варыянтаў гімна. Экспертная група занадта не афішавала сваю дзейнасць, што выклікала цікавасць недзяржаўнай прэсы (11 красавіка 2002 года «Белорусская деловая газета» ў адпаведным артыкуле пыталася пра склад і дзейнасць «таинственной» групы).

Нарэшце, 14 лютага 2002 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь выдаў пастанову №212, паводле якой абвяшчаўся конкурс на новы дзяржаўны гімн. Было зацверджана адпаведнае палажэнне.

На конкурс да 10 сакавіка 2002 года прымаліся толькі беларускамоўныя

тэксты, якія сцвярджалі ідэю дзяржаўнасці Беларусі. Музыка, згодна палажэнню, абавязкова павінна была мецъ «інтанацыйна-меладычную яснасць, запамінальнасць, урачыстасць і рытм шэсця». Конкурс абвяшчаўся адкрытым: у ім маглі прымаць удзел як пэўныя асобы, так і творчыя калектывы. Кожны ўдзельнік мог падаваць толькі адзін праект (музыку і тэкст разам, альбо музыку асобна і тэкст таксама асобна). Усе творы, акрамя агульнавядомых і знакамітых, падаваліся пад дэвізам. Камісія да 10 красавіка 2002 года павінна была вызначыць тры лепшых праекты.

### Толькі новае. Наколькі новае?

12–13 сакавіка 2002 года адбылося першае пасяджэнне экспертнай групы. На ім была агучана цікавая статыстыка, а таксама зроблены пэўны крок на шляху да новага гімна.

З 1995 па 2001 гады паступіла 106 зваротаў, у якіх прапанаваліся музычныя і тэкставыя варыянты дзяржаўнага гімна. Пасля абвяшчэння новага конкурсу прыйшло ажно 327 зваротаў: 117 тэкстаў на музыку Нестара Сакалоўскага, 51 варыянт новых тэксту і музыкі, 4 варыянты новай музыкі, 19 прапаноў выкарыстання вядомых твораў.

На пасяджэнні былі прыняты наступныя прынцыповыя рашэнні: па-першае, не разглядаць тэксты на рускай мове і 106 варыянтаў, дасланых у 1995–2001 гадах, з прычыны нізкага мастацкага ўзроўню. Па-другое, не рэкамендаваць у якасці гімна вядомыя творы: «Магутны Божа», «Пагоня», «Паланез Агінскага», «Ваяцкі марш», «Песня пра Заслонава», «Спадчына», «Люблю мой край», а таксама «Молодость моя, Белоруссия». Па-трэцяе, рэкамендаваць да ўдзелу ў конкурсе тэкставыя творы на музыку Нестара Сакалоўскага пад дэвізамі «Братэрства», «Сейбіт» і «21-2002». Акрамя таго, група выбрала ў якасці магчымых варыянтаў гімна яшчэ два творы: «Радзіма мая дарагая» (Уладзімір Алоўнікаў — Алесь Бачыла) і «Красуй, Беларусь!» (Васіль Раінчык — Леанід Пранчак).

26 сакавіка 2002 года прайшло галасаванне з удзелам чальцоў камісіі і экспертнай групы. Галасавалі асобна па тэкстах да музыкі Нестара Сакалоўскага і па творах «Радзіма мая дарагая» і «Красуй, Беларусь!».

### Спрэчныя вынікі

У галасаванні па тэкстах да музыкі Нестара Сакалоўскага ўдзельнічалі 25 чалавек: «Братэрства» атрымала 11 галасоў, «Сейбіт» — 12, «21-2002» — 2. У сваю чаргу, твор «Радзіма мая дарагая» падтрымалі 15 чалавек, а «Красуй, Беларусь!» — 11 (у галасаванні бралі ўдзел 26 чалавек).

Пад дэвізам «Братэрства» быў пададзены тэкст Уладзіміра Карызны («Мы, беларусы — мірныя людзі»).

Аўтарам тэксту пад дэвізам «Сейбіт» быў Дзмітрый Марозаў.

*Мы — беларусы, сейбіты з роду*
*Вышлі на вольны, светлы абсяг.*
*У братнім адзінстве слаўных народаў*
*Годна ўзнялі Незалежнасці сцяг!*
*Прыпеў:*
*Радасць стварэння, поступ адзіны —*
*Гэтым адвеку жыве беларус.*
*Дзякуй за долю, матуля-Радзіма,*
*Садам квітней, наша Белая Русь!*

А вось паэт-ідэолаг Іван Карэнда стварыў тэкст пад дэвізам «21-2002».

*Край беларускі, край наш айчынны,*
*Мілая сэрцу Маці-зямля.*
*Дзеці свабоднай, мірнай краіны,*
*З гонарам носім продкаў імя.*
*Прыпеў:*
*Мы — беларусы! Лёсам адзіным*
*З братняю Руссю з'яднаны наш род.*
*Вечная слава любай Радзіме!*
*Слава табе, беларускі народ!*

Што да Леаніда Пранчака, то ён перарабіў тэкст да музыкі Васіля Раінчыка, якая ўдзельнічала ў конкурсе ў 1992 годзе. У выніку тэкст атрымаўся цалкам нейтральным.

*Красуй Беларусь! Край мой родны, край свабодны,*
*Жыві і слаўся, — як прызнанне вымаўляю я.*
*Жыві, жыві! Красуйся ў радасці заўсёды*
*Благаславенная мая дарагая зямля.*

У красавіку 2002 года Васіль Раінчык у інтэрв'ю «Белорусской деловой газете» заявіў: ні ён, ні Леанід Пранчак не адчуваюць маральнай адказнасці за перароблены тэкст, што ўпісваўся ў існуючы палітычны рэжым, ва ўмовах якога ў варыянтаў з памінаннем «Пагоні», Грунвальда і бел-чырвона-белага сцяга не было аніякіх шанцаў. Знакаміты кампазітар запэўніваў, што гэта — рабочы момант.


Прапаноўваю ўрэшце афіцыйна
зацвердзіць ужо існуючы беларускі
гімн "Магутны Божа"
Годныя словы, годная музыка!
Мой варыянт: "Магутны Божа"
Словы Натальлі Арсеннеўай
Музыка Міколы Равенскага
Гэты гімн дапаможа нам
аб'яднаць грамадзтва.
06. 03. 2002г.
Ананьеў Андрэй
300
МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
Увах. № „04" 03 2002г.

Такім жа лірычным апынуўся твор «Радзіма мая дарагая».

*Радзіма мая дарагая,*
*Ты ў шчасці жадання жыві!*
*Я сэрцам табе прысягаю*
*У шчырай сыноўняй любві.*

2 красавіка 2002 года на пасяджэнні камісіі на чале з Уладзімірам Дражыным было вырашана, што ў другі тур дапускаюцца «Радзіма мая дарагая», «Красуй, Беларусь!», а таксама тэксты Уладзіміра Карызны і Дзмітрыя Марозава. Для іх трэба было зрабіць аранжыроўкі і арганізаваць праслухоўванне 9 красавіка 2002 года ў Белдзяржфілармоніі.

Эпапея з гімнам выклікала пэўны рэзананс, хаця і не такі, як дзесяць гадоў таму. Сродкі масавай інфармацыі апытвалі грамадзян і беларускіх знакамітасцяў наконт новага гімна. Пазіцыі разыходзіліся, аднак некаторыя высокапастаўленыя асобы не баяліся выказваць сваю думку. Напрыклад, рэктар Беларускага ўніверсітэта культуры Ядвіга Грыгаровіч у інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» выступіла за твор Васіля Раінчыка і Леаніда Пранчака.

9 красавіка 2002 года адбылося праслухоўванне. Усе варыянты ішлі па алфавіце спачатку ў выкананні Узорна-паказальнага аркестра Узброеных Сіл, потым — Дзяржаўнага акадэмічнага хору тэлебачання і радыё і хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У апошнюю чаргу ўсе варыянты гімна выконваліся толькі хорам без суправаджэння.

«Белорусская деловая газета», якая пільна адсочвала ўсе нюансы праслухоўвання, сцвярджала, што найбольш удалым з'яўляецца твор Васіля Раінчыка і Леаніда Пранчака. Выданне прыводзіла выказванне чальца камісіі, які пажадаў застацца невядомым. Па ягоных словах, Уладзімір Алоўнікаў і Алесь Бачыла стварылі прыгожую песню, музыка Нестара Сакалоўскага — самая папулярная, аднак сапраўдным гімнам з'яўляецца «Красуй, Беларусь!».

Праслухоўванне не выявіла пераможцу. Рылатка ў спецыяльным лісце дакладваў Дражыну, што камісія рэкамендавала ўсім удзельнікам конкурсу ўдасканаліць тэксты і аранжыроўку, і што паўторнае праслухоўванне будзе арганізавана 29 красавіка.

### Нікуды без Лукашэнкі

Аднак планы чыноўнікаў раптоўна змяніліся. У працэс умяшаўся Аляксандр Лукашэнка, які выказаў жаданне прысутнічаць пры паўторным праслухоўванні варыянтаў гімна.

Праслухоўванне было перанесена на 8 мая (напярэдадні Дня Перамогі) і мусіла адбыцца ў Дварцы Рэспублікі з 13:30 па 14:30. Разам з Лукашэнкам на праслухоўванні прысутнічалі Рылатка, Рыбакоў, Дражын, Карэнда і першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Станіслаў Князеў. У архіве захаваўся цікавы дакумент — план пасадкі высокіх гасцей. Яны размяшчаліся ў цэнтры, а Лукашэнка заняў 31 месца. Па абодва бакі ад беларускага кіраўніка сядзелі легендарныя Аляксандра Пахмутава і Мікалай Дабранраваў.

**Праўладная журналістка ў сваім артыкуле з пафасам пісала, што акцыя 7 снежня 2002 года на сталічнай плошчы 8 Сакавіка быццам бы пацвердзіла, наколькі моцныя ў беларускага народа патрыятычныя пачуцці. Аўтарка, безумоўна, пераацэньваючы сітуацыю, сцвярджала, што спяванне ў 16-градусны мароз варта кнігі рэкордаў Гінеса**

Вакальнае выкананне варыянтаў гімна ажыццявіў сумесны хор Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Уладзіміра Роўды. Інструментальнае суправаджэнне ў аранжыроўцы для духавога аркестра забяспечваў Узорна-паказальны аркестр Узброеных Сіл пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Барыса Фёдарава.

Вядомая журналістка Людміла Маслюкова ў артыкуле з гучнай назвай «Слова о главном» (Советская Белоруссия, 2002, 11 мая) адзначала, што пасля праслухоўвання Лукашэнка «раздумывал, дважды общался с Ровдо и Федоровым, спрашивал у Раинчика, есть ли резерв для совершенства, и сделал вывод о том, что безупречного текста нет». Напрыканцы журналістка зрабіла вельмі недвухсэнсоўны намёк: кіраўнік дзяржавы параіў «дорабатывать слова, особенно те, которые предлагаются к музыке Соколовского».

Таму стала зразумела, што наўрад ці «Красуй, Беларусь!» стане новым гімнам краіны. Пра непасрэдны ўплыў Лукашэнкі на выбар камісіі сведчыць ліст Рылаткі ў Савет Міністраў ад 22 мая 2002 года. Намеснік міністра культуры адзначаў, што самы прымальны варыянт — тэксты Карызны і Карэнды, бо варыянт Марозава не зусім адпавядае патрабаванням. Па словах Рылаткі, «музыка Соколовского обладает ярко выраженным национальным колоритом, демократичностью музыкального языка, который прочно вошел в традицию белорусского народа».

Колькі слоў чыноўнік сказаў пра твор «Квітней, Беларусь!»: «Он достаточно профессионален, однако сложный поэтический ряд (белый стих) не позволяет рекомендовать текст для гимна». Далей Рылатка працягваў: «Учитывая пафосность музыки Раинчика и «молодежный характер», считаю, что данное сочинение может стать гимном нового объединенного союза молодежи Беларуси» (6 верасня 2002 адбыўся ўстаноўчы сход новага прадзяржаўнага аб'яднання — Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі; прапанова Рылаткі не была ўлічана, таму што неўзабаве гімнам БРСМ стаў варыянт вядомага беларускага выканаўцы Анатоля Длускага).

Паўторнае з'яўленне Карэнды, тэкст якога, як вядома, не прайшоў у другі тур, хутчэй за ўсё, сведчыць пра тое, што высокі чыноўнік уключыў адміністрацыйны рэсурс і дадатковыя каналы.

Але перамог Карызна. 2 ліпеня 2002 года Лукашэнка выдаў указ №350, паводле якога новым варыянтам гімна стаў тэкст Міхася Клімковіча (аўтара савецкага тэксту) і Уладзіміра Карызны.

### Усім — па заслугах

Уладзімір Карызна атрымаў ордэн Францыска Скарыны і буйную грашовую прэмію ў памеры 200 базавых велічынь (два мільёны і дзвесце дваццаць тысяч рублёў). Астатнія, хто меў дачыненне да гімна, атрымалі розныя ўзнагароды: падзяку Лукашэнкі, ганаровыя граматы ўрада і парламента.

Калі ацэньваць прыняцце новага Дзяржаўнага гімна ў 2002 годзе аб'ектыўна, то можна канстатаваць, што сенсацыі не адбылося. Улічваючы моцныя сімпатыі Лукашэнкі да ўсяго савецкага, наўрад ці можна было зацвердзіць нешта экстраардынарнае. Да таго ж, прыняцце гімна адбылося амаль кулуарна, вузкім колам асобаў. Нельга выключаць і тое, што прынцыповае рашэнне было прынята на самым версе. Думка грамадскасці, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, калі і ўлічвалася, то збольшага фармальна.

Гісторыя з гімнам набыла новы працяг, калі ў верасні 2002 года АНТ (Другі нацыянальны канал) звярнуўся ў адміністрацыю прэзідэнта з незвычайнай ініцыятывай: зладзіць масавую акцыю «Споем гимн вместе» з удзелам самога Лукашэнкі. 5 лістапада 2002 года Урал Латыпаў пісаў Гуляку пра тое, што ініцыятыва падтрымана кіраўніком дзяржавы, а Міністэрства культуры павінна аказаць усялякую дапамогу каналу: яго дырэктар Рыгор Кісель быў зацверджаны каардынатарам праекта.

Праўладная журналістка Ганна Шадрына ў артыкуле «Споемте, друзья!» (Советская Белоруссия, 2002, 11 декабря) з пафасам пісала, што акцыя 7 снежня 2002 года на сталічнай плошчы 8 Сакавіка быццам бы пацвердзіла, наколькі моцныя ў беларускага народа патрыятычныя пачуцці. Аўтарка, безумоўна, пераацэньваючы сітуацыю, сцвярджала, што спяванне ў 16-градусны мароз варта кнігі рэкордаў Гінеса.

Аднак у бочцы з мёдам спадарыні Шадрынай знайшлася і лыжка дзёгцю. На акцыі адсутнічаў галоўны спявак і яўны прыхільнік неасавецкага гімна. На запіс тэлевізійнай версіі Лукашэнка так і не з'явіўся.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Вынайдзена новая нацыя

Навукоўцы Валгаградскага дзяржуніверсітэта падрыхтавалі і выдалі «Этнаграфічную энцыклапедыю» рэгіёну. Большая частка энцыклапедыі прысвечаная асаблівасцям побыту і паўсядзённаму жыццю данскіх казакоў, паколькі да 1917 года больш за палову цяперашніх сельскіх раёнаў Валгаградскага рэгіёну ўваходзілі ў склад Вобласці Войска Данскога. Аднак ёсць інфармацыя і пра іншыя народы, якія традыцыйна пражываюць на тэрыторыі вобласці, — рускія, калмыкі, немцы, казахі, татары. Сярод іх упершыню ў гісторыі этнаграфіі згадваюцца прадстаўнікі народу «хахлы». Адзін з аўтараў энцыклапедыі патлумачыў, хто такія «хахлы», — гэта гістарычна кампактна пражываючыя ўкраінцы, сярод якіх назіраецца дзіўны працэс. А менавіта, «хахлы» — тыя, хто ўсё часцей лічыць сябе рускім, адлучаючыся ад Украіны, хаця ў побыце яны карыстаюцца ўкраінскім дыялектам, захоўваюць элементы ўкраінскай культуры. Дарэчы, у Расіі пражываюць каля 5 мільёнаў этнічных украінцаў, якіх расійскія ўлады, відавочна, будуць спрабаваць асіміляваць.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Апошні з «індзейцаў»

З 1932 года ў амерыканскай футбольнай лізе гуляе вашынгтонскі клуб «Redskins» («Чырвонаскурыя»). І прыкладна 10 апошніх гадоў яго кіраўніцтва змагалася з грамадскімі і індзейскімі актывістамі, якія дамагаліся змены назвы клуба. На іх думку, назва «Redskins» дыскрымінуе карэнное насельніцтва Амерыкі. Справа ў тым, што амерыканскі футбол — вельмі агрэсіўная гульня. Як вынік, індзейцы ў дадзеным выпадку выступаюць сімвалам чагосьці гвалтоўнага і жорсткага. Акрамя таго, быццам, назва «Redskins» нагадвае часы, калі індзейцы забівалі з-за скальпаў. Супрацьстаянне ў нейкі час набыло прынцыповы характар, паколькі «Redskins» застаўся адзіным футбольным клубам у ЗША, які адмаўляўся ад таго, каб прыбраць выяву індзейца з сімволікі клуба і перагледзець назву. Пры гэтым у «Redskins» таксама спасыласіліся на тое, што, паводле сацыялогіі, большасці індзейцаў ЗША (90 працэнтаў) абсалютна абыякава, як называецца сталічны клуб. Аднак у выніку перамогу атрымала грамадскасць. З новага сезону клуб будзе насіць назву «Redhawks» («Чырвоныя сокалы»). Праўда, адначасова з'явілася плётка, што інфармацыя пра змену назвы была проста жартам-правакацыяй.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Размаўляйце па-слабажанску

На Украіне выбухнуў цікавы скандал. Прычынай стаў выступ кіраўніка МУС Арсена Авакава ў судзе па справе экс-прэзідэнта Віктара Януковіча. Даючы паказанні 11 снежня, міністр, замест таго, каб гаварыць па-ўкраінску, вырашыў мець зносіны з судом, паводле яго слоў, на «слабажанскай мове або, як яе некаторыя называюць, рускай». Такі пасаж выклікаў шмат іранічных каментараў, паколькі ніякай слабажанскай мовы, натуральна, няма. Існуе хіба слабажанская гаворка, якая ўяўляе чысты суржык — сумесь украінскай і рускай моваў. Некаторыя прапануюць надаць слабажанскай статус другой дзяржаўнай мовы. Шмат хто ў сеціве дзеліцца поспехамі ў вывучэнні замежных моваў — маўляў, прачнуўся зранку і пачаў свабодна размаўляць па-слабажанску. У той жа час шматлікія нацыяналістаў паводзіны Авакава абурылі. Некаторыя нават прапанавалі яго аштрафаваць, абавязаўшы выплаціць 10 тысяч грыўняў (каля $367) за кожнае рускае слова. Жарты жартамі, аднак некаторыя эксперты лічаць выхадку Авакава вельмі небяспечнай. Тое, што адзін з вядучых міністраў дазваляе сабе казаць пра наяўнасць асобнай рэгіянальнай мовы, стварае алібі для іншых лінгвістычных эксперыментаў. Прынамсі, пра існаванне асобнай адэскай мовы даўно кажуць у Адэсе.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАНАДА. Як вітацца ў Квебеку?

На вуліцы нацыяналістаў Квебеку (франкамоўнай часткі Канады) вялікае свята. Яны дамагліся, каб у крамах кліентаў віталі выключна па-французску — «bonjour» («добры дзень». Раней правілы патрабавалі казаць наведвальнікам таксама і англійскае «Hi!» («Вітаю»). Адпаведнае рашэнне пра новую формулу вітання прыняла рэгіянальная нацыянальная асамблея. Падавалася, тэма абсалютна нейтральная. Прынамсі, слова «bonjour» зразумелае кожнаму англамоўнаму. Тым не менш, англамоўныя квебекцы пабачылі ў гэтым замах на свае правы і пачалі вялікую кампанію за скасаванне пастановы. Што тычыцца нацыяналістаў, дык сярод іх таксама хапае скептыкаў адносна пастановы пра прывітанне. Яны лічаць гэта прафанацыяй руху за незалежнасць. Узгадваюць, што ў 2013-м нацыяналісты ўжо атрымалі «перамогу» на моўным фронце, калі дамагліся, каб у італьянскіх рэстаранах словы ў меню накшталт «pasta» былі перакладзеныя на французскую мову.

**Паводле канадскай прэсы**

# Якія Каляды без календара?

Алег НОВІКАЎ

**У кожнай краіны — свае атрыбуты калядных святаў. Што да Германіі, дык гэта, безумоўна, у тым ліку так званы Adventskalender. Або, прасцей кажучы, Калядны каляндар.**




Фота www.pinterest.com

Напэўна, шмат хто глядзеў папулярную амерыканскую камедыю «Кепскі Санта» пра злодзея-алкаголіка, які крадзе ў супермаркетах, прыкідваючыся Санта-Клаўсам. Неяк замест закускі герой ужывае шакаладкі з Каляднага календара, што быў схрадзены ў хлопчыка. Ачомаўшыся, герой адчувае такі сорам за зробленае, што пачынае задумвацца наконт сэнсу жыцця.

Эпізод з «Кепскага Санты» ў нейкім сэнсе ілюструе значэнне Каляднага календара ў традыцыі Захаду. Аднак першапачаткова гэты каляндар — вынаходніцтва не амерыканцаў, а немцаў, для якіх, па сутнасці, гэта сімвал Калядаў.

Наогул, Калядны каляндар — гэта паштоўка або домік з кардону з папяровымі акенцамі, якія адкрываюцца. У кожным з гэтых акенцаў ляжыць цукерка, запіска са святочнымі пажаданнямі або маленькія падарункі. Калядны каляндар складаецца з 24 дзён-акенцаў, адлічваючы час з 1 па 24 снежня, калі адзначаецца Божае нараджэнне. Хаця магчымы варыянты, калі лічыць час да Калядаў прапануюць з 3 снежня.

Традыцыя падобных календароў з'явілася ў часы, калі людзі выкарыстоўвалі прымітыўныя схемы вылічэння дзён да прыходу важных святаў. Лічыцца, што першымі такія календары прыдумалі вікінгі. Дзякуючы ім практыка паступова распаўсюдзілася па ўсёй Паўночнай Еўропе. Часцяком у якасці такога календара выкарыстоўвалася свечка, якую трэба было спальваць штодня ў адпаведных прапорцыях.

Паступова еўрапейцы навучыліся лічыць даты іншымі спосабамі. Аднак традыцыя не знікла. У сярэднявечны становіцца папулярным вешаць на сцяну 24 карцінкі з біблейскімі матывамі. Дзеці кожны дзень зрывалі адну карцінку або закрэслівалі яе. А ў 1902 годзе ў адной з нямецкіх друкарняў пабачыў свет першы дзіцячы каляндар — правобраз цяперашняга Каляднага календара. Праўда, ніякіх прысмакаў усярэдзіне не было. Там можна было знайсці карцінку.

Прыкладна з 1922 года такія календары пачынаюць друкаваць многія выдавецтвы, правакуючы на прадукцыю масавы попыт. Адначасова працягваюцца эксперыменты. Напрыклад, у календары пачалі ўкладаць інструкцыі, як у хатніх умовах прыгатаваць усялякія прысмакі з бульбы або капусты.

Календары настолькі спадабаліся немцам, што неўзабаве імі зацікавіліся нацыянал-сацыялісты. Пры Гітлеры ў Калядныя календары пачалі змяшчаць карцінкі, якія ілюстравалі будні Трэцяга Рэйху, аднак у выніку ідэя ў масах не прыжылася.

Тым больш, што неўзабаве Германія прайграла Другую сусветную вайну. У краіне пачаліся эканамічныя праблемы, і немцам было відавочна не да календароў. Календары пачалі вяртацца ў побыт ва ўнісон з адраджэннем нямецкай эканомікі ў 1950-я гады. Як вынік росту дабрабыту, практычна кожная сям'я магла дазволіць сабе такія сувеніры. Нездарма менавіта тады ў календары ўпершыню пачалі змяшчаць шакаладкі, а пазней і цацкі. Адначасова ўзнікае канон Калядных календароў, без якіх сёння ўявіць Каляды ў Германіі немагчыма. Калі верыць прэсе, два з трох немцаў абавязкова купляюць да Калядаў такі каляндар.

Сёння гэта сапраўдная індустрыя. У 2017-м было выпушчана 80 мільёнаў Калядных календароў. У Баварыі існуе цэлы ўрадавы дэпартамент, які сочыць за якасцю шакаладак, што кладуць у календары.

Адначасова прапануюцца самыя незвычайныя формы прадукцыі. Напрыклад, з'явіліся Калядныя календары ў інтэрнэце. Тут, націснуўшы на нейкую дату, можна пачуць рэлігійную песню. Такія календары, дарэчы, кожны можа спампаваць сабе на смартфон.

У шматлікіх гарадах фасады будынкаў падчас Калядаў афармленыя як каляндар. На акне выяўляюць біблейскія матывы. Лідарам у тут з'яўляецца Вюртэмберг, дзе стварылі самы вялікі Калядны каляндар у свеце. Гэта значыць, што кожная мясцовая царква па чарзе арганізуе нейкія імпрэзы. Існуюць нават «хадзячыя календары», калі людзі штодня сустракаюцца і граюць сюжэты з Бібліі. Усё гэта не абыходзіцца без спеваў і кулінарыі.

Трэба сказаць, што некаторыя не ў захапленні ад навацый у гэтай галіне. Паступова Калядныя календары перастаюць прызначацца выключна для дзяцей і на рынку часам з'яўляюцца вельмі смелыя прапановы. Напрыклад, у продажы можна сустрэць эратычныя Калядныя календары. У кожным акенцы такога календара ляжыць фрывольны малюнак. Вядомыя таксама календары для аматараў піва. Ім прапануецца кожны дзень у чаканні Калядаў есці па кавалачку салямі (натуральна, пад любы напой). Спрабуюць выдаваць календары для тых, хто не верыць у Хрыста.

Зрэшты, камерцыялізацыя пакуль не змагла знішчыць першапачатковы аспект календароў. Што б ні знаходзілася ў акенцах календароў — цытаты атэістаў, салямі або эротыка, — усё роўна яны прызначаныя для сустрэчы Калядаў.




Фота www.vagabomb.com

**«Што б мы ні апраналі, куды б мы ні прыйшлі, «так» — азначае «так», а «не» — азначае «не»**

# Час для гендэрнай інтэрвенцыі?

Алег НОВІКАЎ

**У апараце Паўночна-Атлантычнага альянсу абмяркоўваюць магчымасць вайсковых інтэрвенцый у любую краіну свету для забеспячэння там правоў жанчын.**

Наўрад ці ініцыятыва наконт гендэрных інтэрвенцый прыцягнула б такую ўвагу, каб не падтрымка з боку Анджаліны Джалі — сусветна вядомай зоркі Галівуду. Яна выступіла суаўтарам генсека NATO Енса Столтэнберга ў рэзанансным артыкуле «Чаму NATO павінна стаць абаронцам правоў жанчын».

Лейтматыў тэксту, які апублікавала брытанская «Guardian», — Паўночна-Атлантычны альянс павінен выступіць у ролі вядучага глабальнага пратэктара правоў жанчын. Прычым, іх можна абараняць нават з дапамогай лятальнай зброі і вайсковых аперацый.

Адначасова былі агучаныя крытэры краін, якія могуць быць аб'ектамі тых самых гендэрных інтэрвенцый. Перш за ўсё, гаворка ідзе пра краіны, дзе фіксуецца вялікая колькасць згвалтаванняў жанчын. «Канфлікты, у якіх цела, органы і правы жанчын сістэматычна гвалтуюцца, выклікаюць глыбокія раны і павінны быць вырашаныя... Скончыць гендэрны гвалт — гэта жыццёвае патрабаванне для міру і бяспекі, а таксама сацыяльнай справядлівасці. NATO можа быць лідарам у гэтых намаганнях», — гаворыцца ў артыкуле.

У якасці аргументаў аўтары спасылаюцца на асноўныя прынцыпы Дэкларацыі правоў чалавека — устаноўчага тэксту Арганізацыі аб'яднаных нацый. У тэксце Дэкларацыі сапраўды гаворыцца, што роўныя правы і павага да жанчын — частка фундаментальных правоў чалавецтва.

Ідэя інтэрвенцыі NATO ў імя абароны правоў жанчын выклікала ступар у пацыфістаў. Адразу паўсталі плёткі пра тое, што тэма гендэрных інтэрвенцый спатрэбілася кіраўніцтву блока, каб рэабілітаваць неадназначны імідж Паўночна-Атлантычнага альянсу.

Агучваюцца і іншыя аргументы. Напрыклад, узгадваюць, што любая вайна мае жудасныя наступствы для мірнага насельніцтва — у імя абароны інтарэсаў якога, быццам, і заклікаюць ваяваць Джалі і Столтэнберг. Напрыклад, у вайне NATO супраць «Талібану» ў Афганістане ў 2001 годзе загінула 31 тысяча цывільных афганцаў.

**У заходніх СМІ ўжо пачалася дыскусія наконт таго, якая краіна патэнцыйна можа стаць першым аб'ектам «гендэрнай інтэрвенцыі» з боку NATO. Пакуль у якасці магчымай «мішэні нумар адзін» адназначна фігуруе Пуцінская Расія**

Апаненты тандэму Джалі — Столтэнберг спасылаюцца ў тым ліку на дадзеныя Інстытута міру ў Осла. Яго супрацоўнікі ў рапарце 2009 года на досведзе 13 вайсковых канфліктаў даводзілі, што значна больш жанчын становяцца ахвярамі гвалту менавіта якраз пасля вайсковых канфліктаў. Пасля вайны, як гаворыцца ў дакуменце, у соцыуме назіраецца татальная дэградацыя маральных нормаў на фоне крызісу органаў грамадскай бяспекі. Слабасць апошніх тлумачыцца таксама тым, што шмат мужчын падчас войнаў гінуць і, адпаведна, у паліцэйскіх структурах адчуваецца моцны кадравы дэфіцыт.

Напэўна, найбольш незвычайны тэзіс крытыкаў «фемінізацыі» NATO — ахвярамі войнаў таксама становяцца мужчыны. Прыкладна 80 працэнтаў тых мужчынаў, якія сядзяць у лагерах для ваеннапалонных, пакутуюць ад гвалту — у тым ліку сексуальнага. Некаторыя публіцысты дапускаюць, што псіхічныя траўмы іракскіх жаўнераў, якія трапілі ў амерыканскі палон пасля краху рэжыму Хусейна, у выніку прывялі іх у лагер баявікоў так званай «Ісламскай дзяржавы».

Аднак ёсць і іншы пункт гледжання. Яго прыхільнікі кажуць, што ініцыятыва пра гендэрныя інтэрвенцыі можа запусціць працэс рэарганізацыі вайсковага блоку і надасць яму ў будучыні больш гуманістычныя рысы. Як вынік — зробіць NATO інструментам прагрэсіўнай грамадскасці. У тым ліку і таму, што жанчыны будуць запрашацца ў кіраўніцтва арганізацыі. Лічыцца, што дзякуючы жанчынам можа паўстаць новы фармат стасункаў жаўнераў NATO і лакальных супольнасцяў, якія будуць больш ахвотна ісці з імі на кантакт.

Звяртаюць увагу таксама на тое, што рухавіком цяперашняй кампаніі «Me Too» («Я таксама» — шматлікіх споведзяў жанчын наконт сексуальных дамаганняў) з'яўляецца прагрэсіўны сярэдні клас. Іншымі словамі, за кошт тэмы сексуальнай агрэсіі гэты сектар грамадства атрымаў магчымасць ціснуць на істэблішмент, дамагацца большай празрыстасці эліты.

Пакуль тэма выкарыстання войскаў Паўночна-Атлантычнага альянсу ў мэтах абароны жанчын вельмі спрэчная. Тым не менш, нельга не ўзгадаць, што ў заходніх СМІ ўжо пачалася дыскусія наконт таго, якая краіна патэнцыйна можа стаць першым аб'ектам «гендэрнай інтэрвенцыі» з боку NATO. Пакуль у якасці магчымай «мішэні нумар адзін» адназначна фігуруе Пуцінская Расія.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэджэп Таіп Эрдаган



У рамках кампаніі па пераследу сваіх апанентаў кіраўнік Турцыі вырашыў асудзіць самую прыгожую дзяўчыну ў краіне, што выклікала вялікі скандал у свеце.

Дзяўчыну, якой усяго 18 гадоў, завуць Ітыр Эсен. Яна — студэнтка сталічнага педагагічнага ВНУ — стала вядомая ўсёй Турцыі пасля таго, як у верасні выйграла конкурс Miss Turkey World's Beautiful. Зрэшты, пераможцу літаральна адразу пасля ўзнагароджання пазбавілі кароны. Усё з-за дастаткова дзіўнага каментара ў сацсетках. У ліпені гэтага года яна апублікавала твіт, у якім паведамляла пра пачатак менструацыі, заявіўшы, што «асацыюе гэты фізіялагічны працэс з крывёю ахвяр няўдалага перавароту супраць Эрдагана».

Пазней яна сцвярджала, што не збіралася нікога абражаць, а проста «хацела з іроніяй ушанаваць памяць загінулых», але было ўжо позна. Зараз высвятляецца, што дыскваліфікацыяй Эсен з конкурсу прыгажосці ўлады Турцыі не абмежаваліся. На мінулым тыдні пракуратура вылучыла супраць прыгажуні абвінавачванне, згодна з якім ёй пагражае да трох гадоў турэмнага зняволення за «ўдзел у публічнай абразе часткі грамадства».

### Нурсултан Назарбаеў



Кіраўнік Казахстана трапіў у вельмі непрыемную сітуацыю праз забастоўку шахцёраў у Карагандзе.

Бастуюць 600 гарнякоў васьмі шахт Карагандзінскай вобласці, якія належаць індыйскаму алігарху Лакшмі Міталу. Алігарх не пагаджаецца з патрабаваннямі гарнякоў, якія вымагаюць узняць заробкі з 300–400 еўра да тысячы. Між тым, улады Казахстана напружаныя, памятаючы пра пратэсты ў горадзе Жанаазен 2011 года. Тады супрацьстаянне мясцовых нафтавікоў з уладай, якое доўжылася сем месяцаў, вылілася ў беспарадкі і завяршылася жорсткімі сутычкамі. 17 чалавек былі забітыя, больш за 100 параненыя, дзясяткі рабочых і апазіцыянераў па слядах падзей асуджаныя. Брутальны пераслед удзельнікаў страйку вельмі негатыўна паўплываў на знешні імідж рэжыму Назарбаева.

Цяпер улада спрабуе дзейнічаць больш асцярожна — прапануе бакам канфлікту дыялог. Між тым, няма гарантый, што мы не пабачым паўтору падзей у Жанаазене. Шахцёры настроеныя вельмі рашуча. Іх падтрымліваюць простыя людзі, якія забяспечваюць забастоўшчыкаў грашыма і харчаваннем.

Аглядальнікі пішуць, што Назарбаеў стаў закладнікам сваёй палітыкі, у межах якой у свой час у краіне былі знішчаныя ўсе незалежныя прафсаюзы. У сітуацыі, падобнай на цяперашнюю, яны маглі б утрымаць пратэст у прававым полі.

### Карын Кнэйсл



Прызначэнне сябра правапапулісцкай «Партыі Свабоды» на пасаду дырэктара МЗС у новым урадзе Аўстрыі вярнула ў еўрапейскую дыскусію тэму магчымага краху еўраінтэграцыі.

Лічылася, што перамога Эмануэля Макрона над Марын Ле Пен на прэзідэнцкіх выбарах у Францыі ў 2016-м сімвалізуе пачатак доўгачаканай стабілізацыю Еўрасаюза. Аднак цяпер мы назіраем уздым еўраскептыкаў у Аўстрыі. Чамусьці ўсе меркавалі, што «Партыя Свабоды» ў кааліцыйным кабінеце з кансерватарамі задаволіцца другаснымі міністэрствамі. Пераход аўстрыйскага МЗС пад кантроль ультраправых адчыняе новую і пакуль не зразумелую старонку ў гісторыі ЕС.

Пазіцыя Кнэйсл па шматлікіх пытаннях супярэчыць падыходам Брусэля. Яна, напрыклад, крытыкуе курс ЗША ў Іраку і Сірыі, падтрымлівае незалежнасць Каталоніі, аспрэчвае санкцыі супраць Масквы. Украінская прэса ў гэтым плане спадзяецца, што Кнэйсл, якая прафесійна займаецца Блізкім Усходам, не будзе вельмі актыўна лезці ў адносіны паміж Украінай і Расіяй.

Застаецца таксама дадаць, што, паводле Карын Кнэйсл, доўгая дэстабілізацыя ў арабскім свеце выкліканая гарманальнымі працэсамі ў маладых арабскіх мужчынаў. Таму аўстрыйская міністарка лічыць, што стабілізаваць сітуацыю на Усходзе можа толькі дыктатура жанчын.



# Пасля Вялікага тэрору

Таццяна ПРОЦЬКА

**Увосень 1938 года кіраўнікі Савецкай дзяржавы і Камуністычнай партыі вырашылі, што Вялікі тэрор дасягнуў вызначаных мэтаў — носьбіты іншадумства былі або знішчаныя, або ізаляваныя. Але дадатковым эфектам, як высветлілася, стала практычна бязмежная ўлада спецслужбаў.**




Фота НЧ

Партыйнае кіраўніцтва аказалася адсунутым на другі план — як у свядомасці людзей, так і ў рэальнасці. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны кіраўніцтву СССР, і перш за ўсё Сталіну, гэта здалося немэтазгодным і ў пэўным сэнсе нават небяспечным. Каб вярнуць давер людзей, 17 лістапада 1938 года ЦК ВКП(б) і СНК СССР прынялі пастанову «Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства». У пастанове праведзеная спецслужбамі праца (якую сёння называюць Вялікі тэрор) была ў цэлым ухваленая, але быў прапанаваны шэраг яе паляпшэнняў у будучыні.

## Рэпрэсіі да тых, хто рэпрэсаваў

У развіццё пастановы Камуністычнай партыі НКУС СССР выдаў загад №00762 ад 26.11.1938 года, які абавязваў правесці расследаванні ўсіх выпадкаў парушэнняў «рэвалюцыйнай законнасці» і з гэтага дня прыпыніць расстрэлы. У Беларусі расследаваннем парушэнняў пачаў займацца аддзел арганізацыйна-партыйнай работы (ААПР) ЦК КП(б)Б (загадчык Прохараў). Сюды паступалі матэрыялы з партыйных арганізацый, заявы грамадзян, азнаёміўшыся з якімі кіраўнікі ААПР выклікалі «для размовы» начальнікаў аддзелаў НКУС.

Аналагічнай працай па расследаванні злачынстваў раённых аддзелаў НКУС займаліся ААПР абкамаў. Праверкай займаліся таксама пракуратуры абласцей з прыцягненнем пракурораў раёнаў. Вынікі праверкі ўзгадняліся з сакратаром райкама КП(б)Б. Пачаліся рэпрэсіі ў дачыненні да тых, хто рэпрэсаваў. Вось толькі некаторыя прыклады таго, што высветлілі новыя следчыя пра Вялікі тэрор. Пра тое, як здабываліся прызнальныя паказанні, можна даведацца з матэрыялаў Нацыянальнага Архіва Беларусі і матэрыялаў следчых спраў, якія захоўваюцца ў архівах КДБ Беларусі.

Хадайніцтва аб прыцягненні да судовай адказнасці было ўзбуджанае супраць начальніка Аршанскага гарадскога аддзела НКУС Шчурава, які расстраляў 14 чалавек ужо пасля загаду аб прыпыненні расстрэлаў, афарміўшы прысуд пра выкананне мінулымі датамі. Працуючы начальнікам 3-га аддзялення Магілёўскага УНКУС, ён стварыў у камерах, дзе знаходзіліся арыштаваныя, агентуру з крымінальнікаў.

Апошнія здзекаваліся з вязняў, змушаючы іх даваць прызнальныя паказанні. Крымінальнікамі ў камерах былі забітыя 8 чалавек. Пад прымусам адзін з вязняў напісаў, што ў Шклоўскім раёне, дзе ён жыў, 18 чалавек з'яўляюцца ворагамі. Іх адразу арыштавалі і пасадзілі ў гэтую ж камеру. Пасля збіцця ўсе далі прызнальныя паказанні, хаця, як было ўстаноўлена, былі невінаватымі.

Быў арыштаваны начальнік Чэрыкаўскага РА НКУС В. Балалаў. Апошні арыштаваў старшыню Сенненскага райвыканкама Я. Падалякіна як удзельніка «арганізацыі правых», прымушаў яго падпісаць пратакол з прызнаннем. Старшыня супраціўляўся 9 дзён, на працягу якіх яго збівалі жалезным шомпалам ад вінтоўкі, 4 дні не давалі ежы. Але ён застаўся жывы.

Дапытаны ў ЦК КП(б)Б Падалякін паказаў: «Калі я адмовіўся пацвердзіць «свае» раней дадзеныя паказанні, Балакін пачаў мяне збіваць, акрамя гэтага, узяў за чэлес, заклаў у дзверы і пачаў прыціскаць, пры гэтым пытаўся: «Будзеш падпісваць пратакол ці не? А калі не падпішаш, то заціснy зусім твой чэлес, а цябе выкіну ў скрыню для смецця».

Пра метады вядзення следства ў Мінску расказана ў лісце асуджанага рэдактара газеты «Звязда» Н. Сцерніна, які ён даслаў на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б Пятра Панамарэнкі 29 ліпеня 1939 года (з лютага 1939 года вязням дазволілі пісаць скаргі кіруючым работнікам НКУС і КП(б)Б). Невядома, ці патрапіў тады гэты ліст да адрасата, аднак 7 мая 1960 года пры «прывядзенні ў парадак матэрыялаў асобага сектара ЦК КП(б) за 1930–1941 гады», ён быў знойдзены і перададзены першаму сакратару ЦК КПБ К. Мазураву. На справе, у якой захоўваецца ліст, стаіць адзнака «ў чытальную залу не выдаецца».

З ліста вынікае, што ва ўсіх, выпушчаных з турмы НКУС, бралася падпіска-абавязацельства «нікому нідзе не казаць пра тое, што стала вядома за час знаходжання ў турме аб працы следчых органаў НКУС». Разгалошванне гэтых звестак каралася як разгалошванне дзяржаўнай таямніцы.

## Катаванні як сістэма

Сцернін быў абвінавачаны ў шкодніцтве «ў галіне народнай адукацыі» і аднесены да «нацыянал-фашысцкай часткі антысавецкага падполля». Следчыя патрабавалі, каб ён прызнаўся ў тым, што быў кіраўніком «новага цэнтра», быў завербаваны Гікалам і даў паказанні супраць 200 чальцоў цэнтра. Следчыя казалі арыштаванаму: «Ты не бойся. Ты ніколі ў жыцці з імі не сустрэнешся. Напішаш — змесцім у добрую камеру, дамо прадуктовы паек, кнігі чытаць, а праз год-два вызвалім. Не будзеш пісаць — згнаім у склепе, пераламаўшы косткі, скуру спусцім, пакалечым органы, арыштуем тваю сям'ю, а цябе расстраляем як нераскаянага ворага. Ты — у нашых руках. Перад тым, як расстраляць, мы знойдзем сродкі прымусіць цябе напісаць усё, што нам трэба». Пасля такіх катаванняў «10 гадоў турмы прадстаўляліся як шчасце».

Зняволеных аблівалі вадой і ставілі на скразнякі і холад, ужывалі «канвеер» — на працягу некалькіх сутак (Сцернін стаяў чацвёра (!) сутак) «падследны стаіць у салдацкай стойцы са сціснутымі нагамі, ссунутымі шкарпэткамі і апушчанымі ўздоўж корпуса рукамі. Яму не даюць у гэты час рухацца з месца, не даюць ні ежы, ні вады». У гэты час следчыя, змяняючы адзін аднаго, вядуць допыт. На «канвеерах» у людзей апухалі рукі і ногі, яны не маглі хадзіць, з-за адсутнасці сну наступалі галюцынацыі.

Следчыя выкарыстоўвалі прыём «мазгі ў столь» — на шыю арыштаванага накідваўся рэмень, і моцным ударам выклікалася страсенне мозгу. У вязня пачыналіся самыя моцныя галаўныя болі, галава «гарэла», людзі вар'яцелі. Следчыя білі абцасамі па нагах (прыём «вальса») зняволеных, якіх трымалі нагамі, загнутымі да галавы, улівалі праз нос ваду. «Гэта — невыносная пакута, бо здаецца, што вада пранікае ў самы мозг. Задыхаешся, захлёбваешся — здаецца, што паміраеш». Часам замест вады ўлівалі нашатырны спірт.

Арыштаваных прымушалі гадзінамі ляжаць на вострым рабры табурэткі да падлогі галавой і нагамі, рвалі валасы і калолі ў гэтыя месцы шпількамі. Збівалі брыгадамі — «гулялі ў футбол». Жанчын, якія трапілі ў турму, таксама білі і, як мяркуе Сцернін, гвалтавалі.

Для правядзення масавых арыштаў былі ўсталяваныя «ліміты» — колькі чалавек трэба арыштаваць за кампанію. Для Гомеля «ліміт» быў усталяваны спачатку ў 500, затым у 1000, а потым у 2000 чалавек. Сакалоў (намеснік наркама УС БССР) на аператыўнай нарадзе так інструктаваў работнікаў НКУС: «Вы павінны раўняцца па стаханаўцах на вытворчасці і не толькі выконваць нормы па выкрыцці аднаго чалавека на суткі, але даваць больш, каб не дарма атрымліваць дзяржаўныя грошы». У Мінску нормы «выкрыцця» былі ад 1 да 3 арыштаваных у суткі, у Гомелі — ад 1 да 2.

«Я біў і ўжываў усякага роду здзекі: біў іх рукамі, садзіў на крэсла, затым даставаў з-пад іх крэсла, і яны падалі на падлогу, клаў іх на падлогу, згінаў удвая і ставіў зверху крэсла, сядаў на яго і сядзеў да таго часу, пакуль гэтыя асобы не пачыналі даваць паказанні; пляваў у твар і г.д. Праўда, частку арыштаваных — палову — я не біў, таму што яны значна лёгка пачыналі даваць паказанні і без гэтага», — пісаў у заяве з просьбай аб памілаванні ў лістападзе 1938 года арыштаваны следчы Быхоўскі.

У Гомелі для выкрыцця «контррэвалюцыянераў і шпіёнаў» у студзені ў сутарэннях НКУС былі абсталяваныя 3 камеры-«апарні». У вузкія памяшканні (два ложкі не змяшчаліся) камер-адзіночак са скошанай столлю (столі з аднаго боку былі 2 метры, з другога 1,5 метра), без вокнаў і вентыляцыі, з цэментнымі падлогамі заганялі да 20 і больш чалавек. Столькі, колькі маглі ўціснуць. Камеры абаграваліся печчу, якая знаходзілася за сцяной камер, у іх круглыя суткі гарэла святло. Людзей трымалі суткамі — яны стаялі да таго часу, пакуль не давалі прызнальных паказанняў. У прыбіральню выводзілі толькі па раскладзе.

Ад спёкі, смуроду людзі гублялі прытомнасць, у іх апухалі ногі, на целе з'яўляліся пухіры. Ля дзвярэй, дзе было больш паветра, ставілі камерных агентаў-крымінальнікаў, прысуджаных да расстрэлу, якія збівалі зняволеных. Тых, хто страціў прытомнасць, выцягвалі, адлівалі вадой з шланга і зноў запіхвалі ў камеру. Наяўнасць свядомасці канстатаваў лекар. Больш за 20 дзён «апарню» не вытрымліваў ніхто. Да асабліва непакорлівых ужывалі яшчэ адзін захад уздзеяння — «ледавік».

Арыштаванага адразу пасля «апарні» змяшчалі ў карцэр у склепе з цэментавай падлогай, дзе ўзімку і ўлетку была нізкая тэмпература — каля +1°С. У «апарні» пабывала 500–800 чалавек з агульнай масы разгледжаных спраў на 800–900 чалавек. «Ледавік» пасля «апарні» не вытрымаў ніхто.

У мінскай турме — «амерыканцы» — быў арганізаваны адмысловы рэжымны корпус, куды накіроўваліся ўжо асуджаныя на смерць, але якія, на думку следчых, не далі цалкам праўдзівых паказанняў. Асуджаныя дапытваліся зноў, але ўжо ў якасці сведак, да іх ужываліся асабліва жорсткія катаванні. Калі дапытаны даваў новыя «паказанні», становішча яго палягчалі, давалі цыгарэты, ежу. У «адмысловым корпусе» было пакінута 270 чалавек, толькі 88 з іх «далі паказанні» аж на 3489 грамадзян.

Людзі не вытрымлівалі катаванняў, гублялі розум або рабілі спробы самагубстваў. У пачатку 1938 года арыштаваны працаўнік «Водаканала» Асіповіч кінуўся ў турэмнай лазні ў кацёл з кіпнем.

**Заканчэнне будзе**

# «Мы былі простымі сялянамі, і нам было страшна жыць»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Аляксандра Грыцкевіч — унучка двух удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну. Нарадзілася ў 1944 годзе ў Вызне (цяперашняй Чырвонай Слабадзе). Па адукацыі — матэматык, атрымала дыплом Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Зараз жыве ў Мінску.**

Нядаўна Аляксандра Грыцкевіч напісала кнігу пад назвай «Страта», дзе ўспаміны пра дзяцінства перамяжоўваюцца з каментарамі сталага сучаснага чалавека.

Спадарыня Аляксандра пражыла цэлае жыццё, практычна нічога не ведаючы пра сваіх дзядоў з боку маці і з боку бацькі, якія былі ўдзельнікамі Слуцкага збройнага чыну і загінулі ў Слуцкай турме. Маці ніколі нічога не распавядала дзецям, бо баялася, што яны прагаворацца, і сям'ю задзяўбуць як сваякоў ворагаў народа.

— Я даведалася пра лёс маіх расстраляных дзядоў толькі ў 2012 годзе, дзякуючы мартыралогу «Картатэка Сталіна», размешчаным на сайце «Радыё Свабода», — распавяла Аляксандра Аляксандраўна. — Інфармацыя пра дзеда Мацвея выглядала так: «Кірдзей Мацвей Кузьміч, нар. 1883 у м. Красная Слабада Бабруйскай акругі, беларус, з сялян, няskонч. пач. адук., брыгадзір к-су «Красная Слабада» ў м. Красная Слабада. Арыштаваны 37.08.23. Асуджаны 37.10.11 «тройкай» за бандытызм, за антысавецкую агітацыю паводле арт. 72 КК БССР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Слуцкай турме 37.10.20. 89.04.28 Намеснік пракурора БССР. КГБ РБ 34586-с».

Тое ж тычыцца і другога майго дзеда па маці Грыцкевіча Васіля Аляксеевіча, які быў арыштаваны як польскі шпіён у жніўні 1938 года і памёр у Слуцкай турме 20 кастрычніка 1938 года. Відавочна, што яго закатавалі. У 1989 годзе яго справа была перагледжана і спынена.

***— Чаму, на вашу думку, савецкая рэпрэсіўная машына не пакарала іх адразу, а чакала 17 гадоў?***

— Як вядома, умовы Рыжскага міру ў 1921 годзе, які ўсталёўваў мяжу паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, прадугледжвалі пункт аб прыпыненні выканання смяротных прысудаў, правядзенні поўнай амністыі за ўсялякія палітычныя «злачынствы» з абодвух бакоў. Гэты пункт дамовы дазволіў майму дзеду Мацвею Кірдзею пазбегнуць кары адразу і займець з 1921 па 1937 гады пецярых дзяцей. Старэйшая Маруся стала маёй маці.

Дзед Мацвей працаваў у калгасе конюхам. Ён здаў у калгас сваю пародзістую кабылу Каштанку, авечак, элітную карову. Меў павагу аднасяльчан, нават быў брыгадзірам. Нягледзячы на працоўныя заслугі, пазбегнуць арышту і заўчаснай смерці яму не ўдалося. Дарэчы, бабуля Таццяна верыла, што яму прысуджаны 25 гадоў без права перапіскі.

Сусед па вуліцы вярнуўся з Варкуты ў 1954 годзе і казаў, што нібы бачыў яго ў Варкуце. Магчыма, не хацеў, каб жанчына страціла надзею, а можа і памыліўся. Напрыканцы 1950-х гадоў мы атрымалі афіцыйную паперу, што Кірдзей Мацвей рэабілітаваны пасмяротна без удакладнення месца і часу смерці. Нягледзячы на гэта бабуля да апошніх хвілін жыцця спадзявалася, што ён жывы. Яна памерла ў 1989 годзе, так і не дачакаўшыся вяртання мужа.


Сям'я Аляксандры Грыцкевіч


Мацвей Кірдзей у форме салдата царскай арміі і родны брат Таццяны Іван


Бабуля Таццяна з дзецьмі

***— Як бабуля і яе дзеці жылі ў тыя гады пасля арышту дзеда?***

— Цяжкую сірочую долю можа зразумець толькі той, хто сам яе перажыў. Гэтыя цяжкасці перакінуліся на наступныя пакаленні, бо тое, што дзяды ашчаджалі для сваіх дзяцей, было вынішчана і развеяна.

Пасля арышту дзеда Кірдзея бабулю Таццяну з пяццю дзецьмі выселілі з іхняй прасторнай і дабротнай хаты, якую забралі пад калгасны клуб. Мнагадзетную сям'ю пасялілі ў маленькую хатку насупраць — з саламянай страхой і земляной падлогай. Я нарадзілася ў 1944 годзе ў гэтай хатцы і добра яе памятаю.

Уявіце сабе жыццё самотнай маці пецярых дзяцей, ад якіх забралі кармільца-гаспадара, бацьку. Ад ранку да цямна мнагадзетная маці мусіла працаваць у калгасе. Не было аніякіх дзіцячых садкоў, дый аніякай спагады. Малодшы Косцік бег да мамы Таццяны праз сенажаць — маленькі, у траве не было відаць. І яму касілкай адрэзала нагу. Пасля ён да канца жыцця хадзіў на пратэзе. А памёр ён у 33 гады.

За непасільную працу мела так званыя «палачкі», якімі ў сшытках адзначалі выхады на працу. Замест збожжа на працадні атрымлівалі «гірсу». Гэта была мяшанка з мякіны і пашкоджаных зярнятак. Садовыя дрэвы і кусты спілавалі, бо за кожнае дрэва ці куст трэба было плаціць падатак. А як карміць, апранаць, гадаваць дзяцей?

Быў яшчэ і такі здзек: бабулю Таццяну хацелі пасláць на выставу дасягненняў калгаснай гаспадаркі з былой іхняй, а зараз калгаснай, элітнай каровай у Маскву. Карова ў калгасным статку слухалася толькі Таццяну. Бабуля адмовілася — не магла прабачыць тое, што забралі гаспадара. За гэта ёй дадалі дадатковых калгасных абавязкаў.

***— Як ставіліся суседзі і родзічы да сваякоў ворага народа?***

— Мая маці, Маруся, была старэйшая, мусіла даглядаць малодшых дзяцей і хатнюю гаспадарку. Была вельмі здольная да вучобы і ў школе вучылася на «выдатна». Пасля таго, як Маруся скончыла сямігодку, Таццяна пазычыла грошай на білет і адправіла дачку для далейшай вучобы ў Ленінград. Таццяна добра помніла, як Мацвей пры развітанні наказваў: «Глядзі, вучы Марусю».

Дык вось, у Ленінградзе жыў Таццянін старэйшы брат Іван, які працаваў дырэктарам тэкстыльнай фабрыкі. Інжынерную адукацыю атрымаў яшчэ да рэвалюцыі. Да арышту Мацвея кожнае лета прыязджаў з жонкаю ў Вызну, дапамагаў па гаспадарцы, прывозіў падарункі.

Але адразу пасля арышту, як толькі Маруся прыехала ў Ленінград, адразу купіў ёй білет дадому і афіцыйна адмовіўся ад роднай сястры, ад сям'і «ворагаў народа». Праз многа гадоў, калі я вучылася ў Піцеры, бабуля Таццяна давала мне адрас, прасіла даведацца, як яму жывецца, але я, пакрыўджаная тым адцураннем, туды не пайшла.

Не лепшым было і жыццё маёй бабулі па бацьку Аляксандры Грыцкевіч. З дзевяці народжаных дзяцей да дарослага стану дажылі шасцёра.

Мама атрымала на ўсё жыццё псіхалагічную траўму пасля арышту дзеда і баялася нам, дзецям, штосьці расказваць. Адно казала: «Мы былі простымі сялянамі, і нам было страшна жыць».

Падчас вайны бацька быў у партызанах. Маці была партызанскай сувязной. У лес сыходзілі напрыканцы 1942 — пачатку 1943 гадоў, калі немцы пачалі лютаваць. Маці з бацькам пабраліся ў 1942 годзе, каб пазбегнуць угону ў Германію. Жанатых немцы не бралі.

Пасля вайны мае бацькі ўладкаваліся на працу спачатку ў Клецку. Бацька працаваў там раённым меліяратарам, рабіў мапы мясцовасці, маці — настаўніцай пачатковых класаў. Маці — Марыя Мацвееўна Грыцкевіч — за сваю плённую працу была ўзнагароджана граматай Вярхоўнага Савета БССР. Ёй прысвоена ганаровае званне «Заслужаны настаўнік БССР».

***— Што б вы хацелі сказаць нашым суграмадзянам?***

— Маё сэрца да гэтага часу плача над разбураным лёсам нашай сям'і і нашай роднай Беларусі. У думках і ўспамінах нарадзіліся радкі верша:

*Маё сэрца баліць, як рана,*
*Не сціхае ні на мінутку.*
*Як імжа паяднана з туманам,*
*Так і боль перавіты са смуткам.*
*Ветры цёмныя хмары развеюць.*
*Сонца ў небе. Прырода смяецца.*
*Толькі смутак з журбой мацнеюць.*
*Боль пакіне, як спыніцца сэрца.*

З нас зрабілі іванаў, якія не помняць сваёй радні. Не забывайцеся пра тых, хто змагаўся і аддаў сваё жыццё за Беларусь. Збірайце паўсюль маленькія залатыя парушынкі звестак пра іх у адну вялікую Кнігу нашай гісторыі…

Маю надзею, што новая генерацыя маладых беларусаў, якія прысутнічалі на ўгодках Слуцкага збройнага чыну, уратуюць Беларусь ад асіміляцыі і поўнага знішчэння.

# Хто выдумляе анекдоты і што не напісаў Быкаў

**Першае выданне ў жанры гістарычнага анекдота, дзе сабраны часам дакладныя, часам міфалагізаваныя камічныя і драматычныя гісторыі з жыцця вядомых літаратараў, а таксама дзеячаў культуры і палітыкі, хутка ўбачыць свет. «Новы Час» працягвае друкаваць выбраныя Сяргеем ШАПРАНАМ старонкі з будучай кнігі.**

**Пачатак у № 46,47**



## У навучанне іншым

Гродна пачатку 1970-х. Ва ўладных структурах перакананы, што менавіта пісьменнік Аляксей Карпюк і гісторык Барыс Клейн моцна ўплываюць на Васіля Быкава, і таму абодвух «нейтралізуюць»: Карпюк ужо некалькі месяцаў застаецца без працы, да таго ж на яго заведзена крымінальная справа за нібыта супрацоўніцтва з нацыстамі; Клейну прапанавана ўдзельнічаць у кампаніі па выкрыцці сіянізму — ён павінен выступіць з адкрытым лістом, які асуджаў бы Ізраіль. Параіўшыся з сям’ёй (бо родныя найперш адчулі б наступствы такога ўчынку), Клейн адказаў адмовай. У выніку ён звольнены з выкладчыцкай працы і незаконна пазбаўлены вучонай ступені і звання, яго артыкулы больш не друкуюць, а былыя калегі перабягаюць на іншы бок вуліцы, каб, крый Божа, не павітацца.

Клейн мае намер з’ехаць у Ленінград, аднак другі сакратар Гродзенскага абкама партыі Фамічоў не раіць гэтага рабіць: калі нават гісторык і працаўладкуецца, усё роўна будзе званок з Гродна, і яго неадкладна звольняць.

— Навошта вы ўмешваецеся? — спытаўся Клейн у сакратара абкама. — Я не пазбаўлены волі, нават не даваў падпіску аб нявыездзе. А паколькі ўсё ў мяне ўжо адабралі, значыць, я вам тут больш не патрэбны.

— Не, вы патрэбны: вы будзеце маячыць на гродзенскіх вуліцах, як цень. Каб усе бачылі, які лёс напаткае таго, хто пойдзе супраць нас.

## Ненапісаная аповесць

Тым разам Быкава запрасілі ў КДБ выключна «для гутаркі». Запрашаў генерал, намеснік старшыні камітэта, які прапанаваў напісаць кнігу пра чэкістаў:

— У вас такі вопыт! А мы маглі б дапамагчы. Мы вам дадзім матэрыял, можаце выбраць любога чалавека, любы эпізод і на яго аснове стварыць аповесць. А яшчэ лепей — раман. Тое і нам, і вам было б на карысць.

Генерал націснуў кнопку, і афіцэр прынёс стос папак.

— На ваш выбар. Пачытайце.

Быкава адвялі ў суседні пакой і пакінулі сам-насам з тымі папкамі, у якіх былі акуратна перадрукаваныя выняткі з пасобных чэкісцкіх гісторый перыяду вайны: чэкіст — «у логаве звера», чэкіст — кіраўнік дыверсійнай групы... Адна гісторыя Быкава сапраўды зацікавіла: як савецкага афіцэра-сувязіста выкарыстоўвалі па чарзе то немцы, то свае. Аказалася, герой гэтай гісторыі жывы, працуе на Лепельшчыне. Гродзенскія чэкісты дапамогуць з ім звязацца. Не паспеў Быкаў вярнуцца ў Гродна — былы афіцэр-сувязіст ужо чакаў пісьменніка...

Быкаў сапраўды быў гатовы напісаць дакументальны нарыс, але ў КДБ сказалі: справа пакуль не рассакрэчана, дазваляецца выкарыстаць яе толькі ўскосна. І — мінімум праўдзівасці. Да таго ж пісаць аповесць патрабавалася з акцэнтам на дзейнасці контрразведчыкаў. Быкаў адказаў, што для аповесці там мала зместу. Аповесць — справа ўжо іншы жанр, не чэкісцкі, а літаратурны.

Між тым неўзабаве ў адным з маскоўскіх «тоўстых» часопісаў з’явілася паведамленне, што Васіль Быкаў працуе над новай аповесцю — пра чэкістаў. Праўда, такога твора Быкаў так і не напісаў. А гродзенскі кадэбіст Дубавінкін, які «апекаваў» пісьменніка, сказаў потым расчаравана, што той яго падвёў.

## Пра магнатаў-«прыгнятальнікаў»

Доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч распавядаў пра супрацоўніцтва з «Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй». Як ні дзіўна, але менавіта ў «БелСЭ» выйшла каля ста артыкулаў па генеалогіі магнатаў і самых буйных шляхецкіх сем’яў. Нічога падобнага не было ні ў адной рэспубліканскай энцыклапедыі, нават у «Большой Советской Энциклопедии» згадвалася толькі каля дзесяці найбуйнейшых сем’яў кшталту Шарамецьевых і Меншыкавых. А тут — каля ста! І больш за ўсё артыкулаў — дзевяноста — было замоўлена Грыцкевічу.

Праўда, калі энцыклапедычныя тамы пачалі выходзіць, Грыцкевіч выявіў устаўленую ледзь не паўсюль трафарэтную фразу, што магнаты «былі жорсткімі прыгнятальнікамі бел., укр., літ. і польск. народаў». Але паколькі асобныя тамы здаваліся ў друкарню тэрмінова, часам у рэдакцыі «БелСЭ» забываліся змясціць гэтае «ўдакладненне». У выніку адны магнаты аказаліся «жорсткімі прыгнятальнікамі», іншыя — не.

## «Падбадзёрыў»

Хрушчоў толькі што развянчаў культ асобы Сталіна. Група паэтаў выступае па тэлебачанні. Пятро Прыходзька ўпэўнена чытае свой каронны верш: «Дзе прайшлі салдаты, Сталіна сыны...» Спахопліваецца і папраўляецца: «Леніна сына. Партыі сыны...»

Пасля перадачы ідуць паэты дадому. Прыходзька пытаецца:

— Што мне цяпер будзе?

— Расстраляюць! — «падбадзёрыў» калегу Навум Кіслік.

## Нядзведскі і Сталін

За савецкім часам у Лагойску стаялі два бюсты — Сталіна і Маркса, але пасля XX з’езда КПСС і развянчання культу асобы бюст Сталіна прыбралі. Пісьменнік Уладзіслаў Нядзведскі, узяўшы неяк чарку, захацеў купіць бюст Сталіна. Але, пабарабаніўшы алоўкам па гіпсавай галаве «бацькі народаў», заўважыў:

— Пуставаты.

І купляць не стаў.

## Калі «банны дзень»

Кінарэжысёр Уладзімір Арлоў прыгадваў, як бабуля касманаўта Уладзіміра Кавалёнка, што паходзіла з вёскі Белае Крупскага раёна, пыталася:

— Чула, калі ён лятаў, што ў нейкі дзень у іх там адпачынак і «банный день». Вось скажыце, цікава: адкуль яны там, у космасе, ваду бяруць? То, мусіць, з дажджу?

## Еўдакія Лось у Таджыкістане...

У Таджыкістане праходзіла дэкада беларускай літаратуры, якую прадстаўляла ў тым ліку паэтка Еўдакія Лось. А паколькі гаворка ішла не толькі пра літаратуру, але і пра сяброўства народаў, Барадулін напісаў двухрадкоўе:

*Коль на дружбу повелось,*
*Ваш — ишак, а наша — Лось.*

## ...У Манголіі...

Калі Еўдакія Лось зазбіралася ў Манголію, Барадулін напісаў такія чатыры радкі:

*Дуня мілая, май голаў,*
*Хутка едзеш да манголаў.*
*Можна ў стэпе во як даць!*
*Стэп шырок, ды ўсё відаць.*

## ...На Бягомельшчыне...

Пётр Машэраў праводзіў ідэалагічную нараду на тэму «Вобраз камуніста ў савецкай літаратуры» з выездам на Бягомельшчыну, дзе былі дужа багатыя сталы. Гэта падштурхнула Барадуліна да новага жарту:

*Дунька з’ела парася,*
*І на тым нарада ўся.*

## ...У самалёце

З Полацка вярталіся ў цесным «кукурузніку». Уладзімір Караткевіч сядзеў насупраць Еўдакіі Лось. Барадуліну адразу ж ускочылі ў галаву радкі:

*Вочы ў вочы, каленькі ў каленькі.*
*Будзе ў Валодзі ад Дусі маленькі.*

## Здрадлівае шчасце

Уладзімір Някляеў прыгадваў:

— Атрымаўшы прэмію Ленінскага камсамола, паехаў я ў Італію. Спыніўшыся ў гатэлі, жыў разам з адной расцудоўнай дзяўчынай-італьянкай, якая была ці дачкой, ці пляменніцай гаспадара фабрыкі венецыянскага шкла. І вось аднойчы прачынаюся нараніцы, выходжу на балкон, від проста чароўны — сонца ўзыходзіць! Стаю і думаю: «Вось яно, шчасце!» Калі ж вяртаюся ў пакой, дзяўчына мая раптам гаворыць, што ад мяне пахне... дзярмом. Толькі тады я зразумеў, што, калі быў на балконе, няўзнак уступіў у птушыны памёт. І падумаў, што калі наіўна лічыш, быццам дасягнуў абсалютнага шчасця, у гэты момант заўсёды ёсць шанец уступіць у дзярмо.

## Усё адносна

2011 год. Пасля месяца, праведзенага ў засценках КДБ, і пяці месяцаў хатняга арышту, калі ў кватэры ўдзень і ўначы жылі два кадэбісты, былы кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў нарэшце на волі і найперш едзе наведаць старэйшага сябра Рыгора Барадуліна.

— Вось у цябе неадпойчы пыталіся: ты, дзядзька, пражыў даволі вялікае жыццё, дык скажы: што такое шчасце? — кажа Някляеў Барадуліну. — У цябе пыталіся і ў мяне таксама. Дык сёння раніцай я зразумеў, што такое шчасце: калі прачынаешся ў сваёй хаце, і ў ёй няма чужых!

## Анекдот

Расказваю Уладзіміру Някляеву нядаўна пачуты анекдот. Скача па пустыні Ілья Мурамец, дзень скача, другі, трэці, вады няма, а піць хочацца. Нарэшце бачыць наперадзе аазіс, а там — невялічкае азярцо і на яго беразе Змей Гарыныч. Ілья саскочыў з каня і, не разважаючы, адну галаву Змею ссёк, другую... Той няўцямна глядзіць на крыўдзіцеля:

— Ілья, ты чаго?!

— Піць надта хочацца!

— Дык пі! Хто табе не дае?..

Някляеў, паслухаўшы, смяецца:

— Ведаеш, з чаго адчуў я найбольшую творчую асалоду, якую меў у жыцці? Не з пастаўленага па маім апавяданні спектакля, не з напісанай на мае вершы песні, а з прыдуманага мной анекдота, расказанага мне маім спадарожнікам у купэ цягніка за пляшкай каньяку!

І сапраўды, праз нейкі час, гартаючы падшыўкі старых газет, сустрэў даўняе інтэрв’ю Някляева, у якім ён расказвае, як скарачаў адно са сваіх апавяданняў дый дaскарачаўся да анекдота пра Ілью і Змея Гарыныча.

Да гэтага часу я лічыў, што анекдоты выдумляе нейкі абстрактны «народ», што гэта не аўтарская творчасць. Аказваецца, усё, што створана ў свеце, — як, зрэшты, і сам свет, — мае свайго аўтара.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1221

Падпісана да друку 22.12.2017. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.